# Іван НАВУМЕНКА

## ТОМ ПЕРШЫ

## АПОВЕСЦІ І АПАВЯДАННІ

МІНСК
«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»
1981

# АД ІМЯ ПАКАЛЕННЯ

Калі скончылася Вялікая Айчынная вайна, Івану Навуменку было дваццаць гадоў. У такім узросце ў чалавека ўсё, як кажуць, наперадзе. І будучыня сапраўды яшчэ чакала яго, а сам ён настойліва, мэтаімкнёна накіроўваў да яе свой лёс: працаваў (у рэдакцыі Палескай абласной газеты) і вучыўся (завочна ў Беларускім дзяржаўным універсітэце, які скончыў у 1950 годзе). Пасля скончыў аспірантуру, абараніў кандыдацкую і доктарскую дысертацыі, стаў прафесарам і сапраўдным членам Акадэміі навук БССР, выдатным выкладчыкам літаратуры, лекцыі якога акрылялі не адно пакаленне універсітэцкіх студэнтаў, і вядомым вучоным, кнігі якога пра Купалу і Коласа сталі значным набыткам беларускага літаратуразнаўства і былі адзначаны Дзяржаўнай прэміяй БССР імя Якуба Коласа. А яшчэ — ён стаў пісьменнікам, цудоўныя творы якога даўно палюбіліся чытачам і сёння вядомы далёка за межамі Беларусі...

Каб гэтак, па-сапраўднаму, ажыццявіць сваё прызванне, патрэбны былі і талент, і вялікая праца, і — воля, характар, моцная жыццёвая загартоўка. Усё гэта, вядома, было. Але калі мы гаворым пра духоўную, грамадзянскую аснову, якая вызначае творчую і чалавечую сутнасць Івана Навуменкі, то асаблівае значэнне надаём таму, што было зведана і перажыта ім на зары юнацтва і маладосці. Так, у дваццаць гадоў ён меў ужо за спіной немалы і суровы жыццёвы вопыт — вопыт, які ў многім прадвызначыў усё яго наступнае жыццё і творчы лёс. За час «самай вялікай вайны, якая калі-небудзь была на свеце» (словы з апавядання І. Навуменкі «Праз дзень пасля салюта...»), юнак не толькі зблізу пабачыў жахі акупацыі, але і пабыў спачатку, ад восені 1941 года, арганізатарам і актыўным удзельнікам камсамольскага падполля ў мястэчку Васілевічы (на Гомельшчыне), потым — разведчыкам дэсантнай групы, сувязным і байцом партызанскай брыгады імя Панамарэнкі, а пасля вызвалення Прыдняпроўскага Палесся восенню сорак трэцяга года прайшоў па франтавых

дарогах ад Карэльскага перашыйка да Усходняй Прусіі і Сілезіі. Не адзін раз давялося глядзець у твар смерці, шмат загінула баявых таварышаў, нямнога засталося жывых хлопцаў-равеснікаў.

Таму так дорага пісьменніку памяць пра перажытае, таму так часта вяртаецца ён у мінулае, да семнаццатай вясны, да вайны, да лёсу свайго пераічнага пакалення, якое надзвычай рана прылучылася да галоўнай службы часу і пачэсна выканала свой высокі грамадзянскі абавязак.

І таму так балюча гучыць у яго творах матыў памяці аб тых, хто загінуў, і так напружана пульсуе роздум аб вытоках сапраўднай чалавечай, грамадзянскай трываласці, аб сумленні, шчырасці, праўдзівасці, урэшце — наогул духоўнасці, якая магчыма толькі тады, калі ўсё гэта ёсць у чалавеку.

У прозе Івана Навуменкі, асабліва ў апавяданнях, часта ўзнікае, калі можна так сказаць, лірычны вобраз семнаццатай вясны, той прыгожай і чарадзейнай чалавечай пары, калі надыходзіць час развітацца са школай і ўступаць у дарослае, самастойнае жыццё.

Памяць пра тую вясну, пра тую цудоўную пару мы бяром з сабою ў сталасць як нешта вельмі запаветнае. Яна дарагая нам, гэтая памяць. Юнацтва, як казаў Герцэн, «самая-самая наша частка жыцця». Ці засталіся мы вернымі сабе, марам і ідэалам той пары? Чым узбагацілі сваю душу, кім сталі, як жывём? Пытанні гэтыя часта ўзнікаюць у нас тады, калі згадваем мы сваю маладосць, калі сустракаем сяброў юнацтва. Іх неаднойчы задае сабе і нам, чытачам, празаік Іван Навуменка, які так хораша піша пра маладыя гады свайго пакалення, раз-пораз вяртаецца да таго незабыўнага, што было ў яго ранняй маладосці.

Першыя апавяданні Івана Навуменкі пабачылі свет недзе ў сярэдзіне пяцідзесятых гадоў. У 1957 годзе выйшла першая яго невялікая кніжка «Семнаццатай вясной», а следам за ёй — зборнікі апавяданняў «Хлопцы-равеснікі» (1958) і «Верасы на выжарынах» (1960). Пісьменнік вельмі хутка заваяваў прызнанне чытачоў і крытыкі. Нават больш: ён захапіў сваім новым і свежым словам, адметнасцю апавядальнай манеры і тым жыццёвым матэрыялам, які, бадай што, адным з першых увёў у літаратуру.

Гэта былі апавяданні аб хлопцах і дзяўчатах, чыю семнаццатую вясну заспела вайна. Яны, гэтыя хлопцы і дзяўчаты, жылі акрылена, рамантычна, у атмасферы прыўзнятасці, вялікіх планаў, вернага сяброўства. У жыццё ішло пакаленне, якое нарадзілася і вырасла пасля Кастрычніка і выхоўвалася ва ўмовах новага грамадскага ладу. Яно атрымала з самога жыцця і з кніг

цудоўны зарад патрыятызму і веры, яно рыхтавалася да вялікіх спраў. Яно ведала, што набліжаецца той адказны момант, калі давядзецца весці змаганне за сваю Радзіму і, магчыма, аддаць за яе жыццё. Але тое, што ўяўлялася недзе там, у няпэўнай будучыні, прыйшло знянацку. Вераломны вораг раптоўна напаў на савецкую краіну якраз тады, калі юнакі і дзяўчаты, раеснікі Івана Навуменкі, спраўлялі свае выпускныя вечары.

І адразу ўсё перайначылася. Былі перакрэслены ранейшыя планы, зусім неістотным стала многае з таго, што займала сэрца і розум раней. Галоўным стала змаганне з ворагам. Гэта добра разумелі нядаўнія выпускнікі. Але шлях да змагання знайсці было не проста. Апынуўшыся на захопленай ворагамі тэрыторыі, цяжка было не паддацца разгубленасці, яшчэ цяжэй — неяк асвоіцца ў гэтых нязвыклых абставінах. І ўжо зусім складана — пры такой адкрытасці і непасрэднасці юначых сэрцаў — навучыцца канспірацыі, знайсці такія формы барацьбы, якія былі б і эфектыўнымі, і дастаткова надзейнымі. Вопыт, вытрымка, яснае разуменне сваіх задач — усё гэта давалася не адразу, было вынікам многіх роздумаў, спрэчак, трагічных памылак, а то і ахвяр.

Іван Навуменка, як мы ведаем, сам прайшоў гэты шлях суровай загартоўкі. Дужа свежымі і запамінальнымі былі яго ўражанні ад перажытага тады, у юнацтве. Яны і вызначылі змест, усю атмасферу і тон многіх яго апавяданняў, аказалі вялікі ўплыў на станаўленне таленту і ўвесь творчы лёс пісьменніка.

Але сакрэт бясспрэчнага поспеху пісьменніка, хуткага прызнання яго твораў у чытачоў не толькі ў тым, што ён узяў амаль некрануты літаратурны матэрыял (творы Б. Балтэра, В. Расляковa, К. Ваншэнкіна і іншых рускіх аўтараў, якія таксама расказалі, як нядаўнія школьнікі ўступалі ў вайну, з'явіліся крыху пазней, ды і ўзнаўляліся ў іх іншыя акалічнасці). Справа ў тым, што Іван Навуменка неяк адразу шчасліва знайшоў свой адметны ракурс для апавядання, для даверлівай размовы з чытачом. Пісьменнік не аддзяляў сябе ад сваіх герояў, колішніх рамантычных і крыху бесклапотных юнакоў і дзяўчат,— мы ўвесь час адчуваем, што ён сам быў адным з іх.

Перачытваем даўняе апавяданне «Семнаццатай вясной». Сёння, калі мы ведаем пазнейшыя творы І. Навуменкі, у якіх пановаму засвяцілася майстэрства празаіка, мы ўжо заўважым, што ў апавяданні «Семнаццатай вясной» сюжэту крыху бракуе стройнасці, што не пазбег аўтар апісальнасці і пераказу, што некаторыя інтанацыі (напрыклад, гумарыстычныя) крышачку фарсіраваны апавядальнікам. Аднак, адчуваючы гэта і ведаючы, што ў многіх пазнейшых творах пісьменнік дамогся ўжо і большага псіхалагічнага пранікнення, і большай унутранай складанасці ва

ўзаемадачыненнях сваіх герояў, больш паўнакроўных, шматаспектных узаемаадносін герояў і абставін,— мы ўсё ж аддаёмся чытанню ўсёй душой, хвалюемся, суперажываем, падначальваемся аўтарскаму настрою, вяртаемся ў маладосць, успрымаем думкі і ўчынкі, прыгоды галоўнага героя як нешта сваё, роднаснае. Мабыць, нешта падобнае перажывае і малады чытач — толькі без апасродкавання сталым вопытам, а адразу, адкрытым сэрцам, бо апавяданне «Семнаццатай вясной» вытрымана, калі можна так сказаць, у характары і эмацыянальным ключы маладосці.

Маладыя гады, маладыя жаданні, прыход неўтаймоўнага пачуцця кахання.

«Мая семнаццатая вясна была вельмі багатай на кветкі, на цеплыню, на тыя цудоўныя дні, калі, здаецца, сама зямля спявае песню сонцу, жыццю, высокаму сіняму небу».

Толькі расцвітае гэта вясна ў нярадасную часіну: «Упершыню за многія гады і мне, і маім сябрам не трэба было здаваць экзаменаў. Не было і настаўнікаў, якія вучылі нас у школе. Адны з іх пайшлі на фронт і ваявалі пад Ржэвам, а можа, пад Севастопалем, а другія таксама не задавалі нам урокаў, бо на фасадзе нашай школы трапятаў чужы сцяг з чорнай свастыкай...»

Інтанацыя змянілася — ідзе апісанне суровага акупацыйнага побыту. Але лірычная прыўзнятасць зачыну не згублена, яна толькі ўскладняецца новымі наслаеннямі. Герой апавядання пачынае расказваць пра сваіх сяброў — Цішку, Міколу і Сымона, і вось ужо сплятаюцца разам зычлівасць, усмешка, а потым — як ні «хавае» гэта ад сябе герой — прабіваецца ўсё тая ж лірычная хваля, узмоцненая каханнем, што прыйшло — зноў усмешка — так «не да часу» («я, чалавек, які не зрабіў у жыцці яшчэ ніводнага подзвігу, закахаўся самым ганебным чынам»).

Апавяданне разгортваецца далей... Усё ў ім дзівосна проста, можна сказаць, вядома, прынамсі, тым, хто зведаў фашысцкую акупацыю, каму ўсё гэта давялося перажыць на ўласным вопыце. Ну, канечне ж, пацішку збіралі боепрыпасы і ўхіляліся ад працоўнай павіннасці, выношвалі планы «бязлітаснай вайны» фашызму. Шукалі, як перайсці да актыўных дзеянняў.

І ўсё ж пісьменнік, расказаўшы вось гэта «вядомае», адкрывае нам як сапраўдны мастак нешта істотна новае. У чым яно? Не бяруся адказаць пэўна. Ёсць тут, у творы, такая жыццёвая і пачуццёвая напоўненасць, што хвалюе і змушае думаць. Здаецца, і сам аўтар, і герой, ад імя якога вядзецца апавяданне, хочуць разабрацца: што ж адбылося з героем? Пакахаў. Саромеецца сваёй апраткі. Выкрадае бацькаў сіні касцюм, у якім хоча трапіць на вочы сваёй выбранніцы. Замест спаткання з дзяўчынай (так атрымалася) у гэтым касцюме пайшоў на чыгуначную

дыверсію і ўшчэнт распатляў гэтую самую адзежыну. Потым даведаўся, што ў мястэчку ўжо ёсць падпольная група і што Стася — таксама падпольшчыца.

Справа ў тым, што ўсё гэта паказана з добрай мастацкай і жыццёвай дакладнасцю, усё разгорнута ў рэчышчы складанага настрою. Душа юнака, шчырага, непасрэднага, сарамлівага, паказана ў руху, у пошуку, у развіцці. Быццам наноў бачыць хлопец і навакольных людзей, і сябе. І душа яго багацее таму, што ён не здраджвае сваім ідэалам, не шукае зацішку. Шчырае, чалавечае і павучальнае гэта апавяданне — «Семнаццатай вясной».

Потым мы чыталі наступныя апавяданні і аповесці Навуменкі, зноў і зноў сустракаліся з ягонымі хлопцамі-равеснікамі. Асноўныя моманты, зыходныя, так сказаць, каардынаты заставаліся ў іх нярэдка падобнымі: апошні год школьнай вучобы, планы на будучыню, вайна, акупацыя, выношванне планаў барацьбы, першыя падпольныя дзеянні. І — каханне.

Эмацыянальны духоўны свет і вопыт герояў з розных твораў І. Навуменкі амаль заўсёды мае багата агульных рыс. І гэта зразумела. Пісьменнік паказвае і раскрывае самае істотнае і вызначальнае ў абліччы пакалення. Ёсць шмат агульнага і ў самой атмасферы розных навуменкаўскіх твораў, і ў дэталях, жыццёвых падрабязнасцях, якія спадарожнічаюць сюжэтнаму развіццю. Але пры ўсёй роднасці тэм, матэрыялу, сходнай танальнасці большасць апавяданняў І. Навуменкі мае і сваю мастацкую самастойнасць, высвечвае нешта адметнае ў характарах, у людскіх дачыненнях, у жыцці наогул. Жыццё і мара, каханне і барацьба з ворагам, гартаванне волі і характару, праверка чалавека на трываласць, вытокі і перадумовы чалавечага подзвігу — такая ўнутраная праблематыка твораў пісьменніка. У кожным з іх Навуменка расказвае пра сваіх герояў нешта новае.

Вось настраёвая навела «Верасы на выжарынах». Яна — аб марах дзяцінства, аб прадчуванні нечага вялікага, аб яднанні маладой душы з чарадзейным светам прыроды, аб нясмелым каханні, затоеным у сэрцы юнага героя і даверaным толькі лесу... І яшчэ аб тым, як захопнікі пасягаюць на ўсё гэта — на каханне, на мары, на лес і на лёс. Шырока адкрываецца душа героя ў перажыванні такой канфліктнай калізіі (фашысты гоняць насельніцтва высякаць лес каля чыгункі — «баяліся нападу партызан»), высвечваецца новымі гранямі змест і сэнс барацьбы і подзвігаў пакалення.

У некалькіх апавяданнях («Месячная ноч», «Па махорку», «Таполі юнацтва», «Трымценне дубовага лісця») раскрываецца амаль адна і тая ж жыццёвая гісторыя: як вайна, раскідаўшы па свеце маладых людзей, назаўсёды развяла былых закаханых,

Але ў кожным з гэтых апавяданняў ёсць яшчэ і свой унутраны змест, і свае эмацыянальныя адценні. У «Таполях юнацтва» пераважае настрой вяртання ў маладосць, да тых таполяў, пад якімі гэтак трудна і хораша, хоць і без узаемнасці, некалі закахаўся герой у сваю аднакласніцу і па якой, здаецца, сумуе і дагэтуль. У апавяданні «Па махорку» не было ні неўзаемнасці, ні здрады. Развяло маладых людзей звычайнае непаразуменне. Але высвятляецца гэта для іх, на жаль, вельмі позна.

Падзейная пляцоўка ў апавяданнях І. Навуменкі нярэдка змяняецца: пісьменнік паказвае сваіх герояў ужо не толькі на местачковых вуліцах, але і ў партызанах («Соль»), і на франтавых дарогах («Ноч у літоўскім гарадку»), і ў пасляваенным побыце. Ёсць у яго, напрыклад, цудоўнае апавяданне «Салдаты вярнуліся», дзе тонка паказана, як перастройваюцца пасля вайны на мірны лад і па-новаму спазнаюць жыццё былыя партызаны і франтавікі (а маладыя ж яны яшчэ, гэтыя франтавікі-студэнты!).

Усё гусцей становіцца ў творах пісьменніка сам настрой. У мностве разнастайных лірычных адценняў, у самых розных планах і паваротах раскрываецца лёс пакалення, расказваецца аб яго мужненні, яго пошуках, стратах і душэўных набытках. І расказана гэта з такой душэўнасцю, з такой арганічнай праўдзівасцю тону і інтанацыі, з такой дакладнасцю ў дэталях, праніклівасцю ў псіхалагічных характарыстыках, што не можа пакінуць абыякавымі нас, чытачоў.

У творах пісьменніка выразна жыве адчуванне часу — таго даўняга, перадваеннага і ваеннага, калі адбываліся падзеі, і — сённяшняга. На людзях, абставінах, учынках, дэталях побыту ў апавяданнях І. Навуменкі ёсць выразная і дакладная мета свайго часу, але пісьменнік усюды дае нам адчуць і тую часавую дыстанцыю, што аддзяляе нас ад тых падзей.

Ёсць у яго і тонкае адчуванне прыроды і магчымасцей жанру апавядання. Сярод твораў Навуменкі ёсць настраёвыя імпрэсіі («Водгулле далёкіх вёснаў...»), і любоўныя навелы («Трымценне дубовага лісця»), і гумарыстычныя апавяданні («Эх, махорачка...»), і лірычныя эцюды («Негры ў Мінску»), і псіхалагізаваныя драматычныя апавяданні. Лепшыя творы пісьменніка вызначаюцца гарманічнай ураўнаважанасцю апавядальнай мовы, арганічнай з'яднанасцю ў ёй лірызму і ўсмешкі, рамантыкі і будзённасці, унутранай абгрунтаванасцю пераходаў і рэтраспекцый.

Іван Навуменка — пясняр юнацтва. Ён умее пранікліва і тонка раскрыць маладую душу, цудоўна адчувае свайго юнага чытача, ведае, як і якія струны закрануць у яго душы, чым за-

цікавіць яго ўяўленне. Творчасць пісьменніка была справядліва адзначана прэміяй Ленінскага камсамола Беларусі.

Выдатна ўмее пісаць празаік аб дзецях і для дзяцей. Яго аповесць «Вайна каля Цітавай копанкі» вылучаецца разуменнем дзіцячай псіхалогіі, уменнем драматызаваць штодзённасць, без дакучлівай павучальнасці ставіць і вырашаць сур'ёзныя пытанні маралі і паводзін. Можна нагадаць яшчэ апавяданні «Жуль Верн» і «Пераломны ўзрост». У іх пісьменнік вельмі свабодна адчувае сябе ў дзіцячай сферы, дасціпна і з жыццёвай пераканаўчасцю паказвае справы і клопаты дзяцей, іх зносіны з дарослым светам.

Апавяданне «Пераломны ўзрост» (яго можна лічыць і невялікай аповесцю), здаецца, не адзначалася нашай крытыкай. Мне ж яно ўяўляецца адным з лепшых твораў пісьменніка. Гісторыя хлопчыка Пекі, гаротніка-сіраты, які жыве пад апекай дарослай сястры Рашэлі, расказана і паказана шматгранна, і душэўнай абвостранасцю. Няпростыя адносіны між дарослымі і дзецьмі падаюцца як у сямейнай сферы, так і ў школе. Цікава выяўлены характары настаўнікаў (асабліва славесніка Рыгора Канстанцінавіча), аднакласнікаў Пекі (асабліва хлапчука, ад імя якога вядзецца апавяданне). Школьныя ўрокі, хатнія забаўкі хлапчукоў, іх спаборніцтва ў ведах, рэўнасць, іх крыўды, іхнія думкі і мерканні пісьменнік паказаў з сапраўдным псіхалагізмам. А побач — насычанае канфліктамі дарослае жыццё. Ханжа і гультайка, жорсткая «выхавацелька» Пекі — Рашэль, яе хцівы муж Сямён Барысавіч, яе ўхажор фізкультурнік Міланцій Казельчык... Перад намі, па сутнасці, разгортваецца цэлая аповесць аб цяжкім дзяцінстве, аб выхаванні, аб адказнасці дарослых, аб дзіцячай самастойнасці, аб тым, як уплывае на дзіцячую псіхіку жорсткасць, няўвага, несправядлівасць дарослых людзей. І ўсё гэта на малой апавядальнай плошчы раскрываецца з вялікай жыццёвай паўнатой і мае сапраўдную ідэйна-мастацкую значнасць.

Чытачы, мабыць, добра памятаюць і такія апавяданні, як «У Макаў, на млын...», «Раман з эпілогам», «Іван ды Мар'я». Першае — аб часах калектывізацыі, два апошнія — аб дні сённяшнім. Іх жыццёвая аснова і псіхалагічнае напаўненне вылучаюць гэтыя творы з асноўнай плыні навуменкаўскіх апавяданняў і сведчаць аб тым, што пісьменнік выходзіць за межы традыцыйнага для яго матэрыялу і ўзбагачае свой арсенал выяўленчых сродкаў.

Пра апавяданні І. Навуменкі хочацца гаварыць шмат, бо гэта надзвычай яркая і змястоўная старонка ў нашай прозе. Апрача іх мастацкай непаўторнасці, якая выяўляецца ў тонкім псіхалагізме і асаблівай настраёвай атмасферы, варта яшчэ раз

падкрэсліць ідэйна-выхаваўчае значэнне. Яны актыўна сцвярджаюць высокія маральна-грамадзянскія якасці ў чалавеку, пабуджаюць да жыцця прыгожага, шчодрага. Бадай што цяжка назваць у беларускай літаратуры двух апошніх дзесяцігоддзяў іншага празаіка, які б так многа і плённа працаваў у навелістыцы.

Пяру пісьменніка належыць шэраг аповесцяў, а таксама некалькі раманаў (трылогія, якую ўтварылі раманы «Сасна пры дарозе», «Вецер у соснах», «Сорак трэці», і нядаўна апублікаваны раман «Смутак белых начэй»).

Некалькі аповесцяў, апублікаваных І. Навуменкам за апошняе дзесяцігоддзе («У бары на світанні», «Апошняя восень», «Развітанне ў Кавальцах», «Замяць жаўталісцяя», «Інтэрнат на Нямізе») таксама выразна паказалі, што пісьменнік настойліва імкнецца да новых жыццёвых і творчых далягладаў. Не, ён не развітваецца з тэмай свайго пакалення, якое ўвайшло ў вайну прама ад школьнай парты. У аповесці «Апошняя восень» ён зноў піша пра выпускнікоў сорак першага года, высвечвае іх унутранае жыццё праз мноства жывых і дакладных успамінаў і выяўляе глыбінную сувязь іх мар і спраў не толькі з ажыццёўленым на вайне подзвігам, але і з нашай сучаснасцю.

У нядаўна апублікаванай аповесці «Інтэрнат на Нямізе» (1978) паказваецца першы пасляваенны час, у які пакаленне равеснікаў пісьменніка працягвала сваё пасталенне, па-новаму спазнаючы складанасць жыцця. Няпроста складваецца ў мірны час лёс былога партызана і франтавіка Міколы Кавалюка. Напаўгалоднае жыццё, заблытаныя адносіны з дзяўчынай, якую ён пакахаў, напружаны пошук свайго жыццёвага шляху ў мірных умовах. Але ён выяўляе трываласць і сілу характару, больш таго — ва ўмовах жыццёва і псіхалагічна складаных ён, па сутнасці, застаецца верным ідэалам свайго юнацтва і ў каханні, і ў сяброўстве, і ў апанаванасці імкненнем да ведаў і пачэснай грамадска-карыснай дзейнасці.

Аповесці «У бары на світанні», «Развітанне ў Кавальцах», «Замяць жаўталісцяя» прысвечаны падзеям і калізіям ужо сучаснага жыцця. Аўтар звяртаецца да праблем, якія сёння, у абставінах навукова-тэхнічнай рэвалюцыі, набылі асаблівую вастрыню і надзённасць. Гэта праблема ўзаемаадносін чалавека і прыроды (у дужках заўважым, што Іван Навуменка ад самых першых апавяданняў вельмі хораша паказвае, як узбагачае духоўны свет чалавека адчуванне красы і жыццядзейнасці роднай прыроды). Гэта і шырокае кола праблем, звязаных з сутыкненнем актыўных, адказных адносін да сваіх абавязкаў і нядбайнасці, пасіўнасці ва ўчынках і справах. У барацьбе духоўнасці з безду-

хоўнасцю, шчырасці і бескарыслівасці з дэмагогіяй і спажывецкай пошласцю нялёгка даводзіцца героям, якім аддадзены сімпатыі аўтара. Часам не на іх карысць вырашаюцца жыццёвыя ўскладненні, нешчасліва складаецца іх асабістае жыццё, не атрымліваецца каханне. Але ў галоўным яны перамагаюць: застаюцца самімі сабою, адхіляюць лягчэйшыя, кампрамісныя рашэнні, адстойваюць свае ідэалы сяброўства, кахання, грамадзянскай і чалавечай вартасці.

У аповесці «У бары на світанні» жыццёва, востра паказваецца канфлікт паміж маладым і сумленным ляснічым Лявонавічам і яго равеснікам — дырэктарам лясгаса, нахрапістым і правырлівым Пікулікам. Падзеі аповесці разгортваюцца ў крыху элегічным ключы — яны падаюцца праз успрыняцце Лявонавіча, які знаходзіцца ў паласе суцэльных няўдач: не атрымліваецца каханне, падарвана яго гаспадарчая ініцыятыва, помслівы Пікулік дамогся звальнення «наравістага» ляснічага... Але элегічнасць яшчэ больш падкрэслівае чалавечнасць Лявонавіча, дапамагае раскрыццю яго характару, спараджае ў нас актыўнае спачуванне яго перажываннім. Зрэшты, фінал аповесці дае надзею, што не ўсё яшчэ скончана: такія шчырыя і сумленныя людзі, як Лявонавіч, заўсёды маюць падтрымку і спачуванне. Справа Лявонавіча яшчэ будзе разгледжана ў райкоме, туды едзе бухгалтар Саўчук, каб абараніць маладога ляснічага.

Разышліся жыццёвыя шляхі героя аповесці «Развітанне ў Кавальцах» настаўніка Яўгенія Раманавіча і Антаніны, а таксама Высоцкага і Галі — герояў аповесці «Замяць жаўталісця».

* * *

Раманы Івана Навуменкі з'явіліся якасна новым этапам у развіцці Навуменкі-празаіка. Гэтыя творы як бы абагулілі і ўвабралі ў сябе ўсе лепшыя набыткі пісьменніка ў жанры апавядання. Па-новаму выявіліся ў іх ранейшыя канфлікты і калізіі.

У рамане «Сасна пры дарозе» ўвайшлі ў складанае ўзаемадзеянне ў рэчышчы аднаго сюжэта розныя эпізоды і факты, што дагэтуль фрагментарна з'яўляліся ў апавяданнях. Стыхія лірызму ва ўзаемадзеянні з эпічным набыла новыя адценні. Пашырылася кола жыццёвых з'яў, ахопленых адной агульнай плынню. У складаных псіхалагічных дачыненнях паўстала жыццё цэлага мястэчка — пісьменнік разгарнуў, па сутнасці, карціну ўсенароднага быцця і супраціўлення захопнікам на акупіраванай тэрыторыі.

Побач з моладдзю, якой пісьменнік па-ранейшаму надае шмат увагі і аб якой піша пераважна ў рамантычным ключы

сваіх ранейшых апавяданняў, у раманах ужо грунтоўна, уважліва, без «пропускаў» і «пераскокаў» раскрываюцца лёсы і характары людзей сталых і, што вельмі важна для эпічнага твора, розных па сваім вопыце, поглядах, грамадскім абліччы і псіхалагічных рысах. Выведзены на старонках трылогіі і здраднікі, і паліцаі, і захопнікі, і звычайныя абывацелі. Ёсць вобразы, якія сталі сапраўдным адкрыццём Навуменкі,— вобраз «фольксдойча» Крамера, эвалюцыя свядомасці якога прасочана на дзіва тонка і з мастацкай смеласцю, вобраз Эрны Турбіной, жанчыны з нескладным лёсам і супярэчлівым характарам.

Паказаны цяжкасці падполля — правалы, няўдачы. Рознабакова раскрыта асаблівая складанасць першага года вайны, прасочана ад самага зародку развіццё партызанскага руху. З вялікай жыццёвай дакладнасцю апісаны акупацыйны побыт у мястэчку і навакольных вёсках, розныя акцыі акупацыйных улад.

Раман «Сасна пры дарозе» ахапіў прыкладна год жыцця ў акупіраваным ворагам мястэчку. Гэта быў год вялікіх выпрабаванняў і незвычайных пакут для жыхароў Бацькавіч, як і для мільёнаў савецкіх людзей, што змагаліся з фашысцкай навалай.

Па сутнасці, сюжэт «Сасны пры дарозе» — гэта гісторыя станаўлення і росту ўсенароднага супраціўлення ворагу, паказаная на прыкладзе аднаго беларускага мястэчка і яго наваколля.

Гэта абумовіла «панарамнасць» твора, яго ўнутраную шматтэмнасць, яго шматгеройнасць. Маштабная задума абавязвала пісьменніка паказаць, звязаць і суаднесці ўсе пласты «акупацыйнага побыту» мястэчка, знайсці такія пункты гледжання на падзеі, каб жыццёвы матэрыял выявіўся ва ўсім драматызме, у адпаведнай яму сацыяльна-псіхалагічнай складанасці.

Усе тыя эпізоды, факты, падрабязнасці народнага змагання з акупантамі, якія Навуменка-апавядальнік у розных ракурсах і праявах паказваў і раскрываў раней, так сказаць, паасобку, ці, як гавораць філосафы і матэматыкі, «дыскрэтна», цяпер зліліся ў адно эпічнае цэлае, увайшлі ў больш поўнае і разгалінаванае жыццёва-мастацкае ўзаемадзеянне. Раман даў пісьменніку магчымасць разгарнуць велічную і цэласную карціну з надзвычай шырокімі жыццёвымі берагамі, «зняць», калі можна так сказаць, перагародкі паміж сваімі апавяданнямі, узбуйніць іх змест новым маштабам ідэйна-мастацкага асэнсавання.

Беручыся за раман, Іван Навуменка зрабіў адказны і нялёгкі крок у сваёй творчасці. Законы вялікай эпічнай формы маюць сваю спецыфіку як у агульным плане развіцця дзеяння і паказу падзей, так і ў логіцы больш ці менш прыватных мастацкіх рашэнняў. Калі б Навуменка-раманіст па інерцыі перанёс у «Сасну пры дарозе» тую адметную лірычную танальнасць, што ўласціва

яго апавяданням, і падначаліў ёй усё эмацыянальнае выяўленне твора, раман хутчэй за ўсё мог бы атрымацца аднатонным, збедненым у кампазіцыйна-сюжэтных магчымасцях, стылёва абмежаваным. Разам з тым, раман, відавочна, шмат страціў бы, калі б Іван Навуменка назусім адмовіўся ў ім ад таго, што так вабіла нас у яго апавяданнях — ад лірызму, рамантыкі, асаблівай душэўнасці.

Празаік з гонарам справіўся з новымі творчымі цяжкасцямі. Адолеўшы многія прынцыповыя складанасці, Іван Навуменка дамогся ў рамане своеадметнага сінтэзу эпасу і лірыкі, стварыў цікавае і значнае мастацкае палатно.

Той юнацкі свет, які амаль заўсёды быў у цэнтры ўвагі пісьменніка ў яго апавяданнях, шырока разгорнуты Навуменкам і ў трылогіі, але тут ён раскрываецца пад шырэйшым вуглом гледжання, многімі бакамі з'ядноўваецца з агульнанародным быццём.

Раман пачынаецца эпічным запевам пра сасну, што «расце на сухім грудку ля чыгуначнага пераезда» («усе чатыры вятры гамоняць з сасной», «кожнаму думаецца, што яна была тут заўсёды»). Затым мы як бы зноў апынаемся ў прывычнай атмасферы ранейшых навуменкаўскіх твораў. Аўтарская ўвага засяроджваецца на рамантычным юнаку-старшакласніку Міцю Птаху і яго сябрах Івану Лобіку і Нупрэю Гілю. Мы бачым гэтых хлопцаў напярэдадні іх рашучага кроку ў самастойнае жыццё, уведваем пра іх перадваенныя настроі, планы, жаданні і тут жа бачым, як рэзка змяняе іх лёсы, жыццё ўсяго мястэчка раптоўны фашысцкі напад. У дачыненні да моладзі празаік, як і раней у апавяданнях, выяўляе сваю ўнутраную блізкасць, не адмаўляючыся ад непасрэднага лірычнага суперажывання. Паказваючы праз успрыняцце Міці многія з'явы акупацыйнага побыту, аўтар дасягае асаблівай выразнасці, бо душа Міці абвострана і з вялікай унутранай аддачай рэагуе на падзеі. Таму напачатку здаецца, што «Сасна пры дарозе» — раман аб моладзі.

Але не выпадкова на самых першых старонках рамана «чыста эпічна» расказаў аўтар пра пажылога пуцейца Сцяпана Птаха. Не выпадкова паралельна вобразам маладых герояў з'яўляюцца ў творы камуністы Шэлег, Драгун, а потым і вельмі каларытны «фольксдойч» Аўгуст Эрнеставіч Крамер. І не выпадкова пераплятаюцца потым у рамане іх лёсы. Час ідзе, раман разгортваецца, і становіцца відавочным, што пісьменнік мае на мэце паказ надзвычай шырокай карціны народнага быцця і змагання.

Па-майстэрску вызначае аўтар «Сасны пры дарозе» галоўнае. вузлавое ў шырокай панараме падзей, трапна падсвечваючы гэта галоўнае «другараднымі» эпізодамі. Як сапраўдны чалавеказнаў-

ца раскрывае вобразы і Міці Птаха, і вопытнага камуніста Шэлега, і абывацеля Крамера, які імкнецца застацца сумленным чалавекам, заняўшы пасаду бургамістра. А недзе другім планам праходзіць галерэя вобразаў, якія займаюць эпізадычнае месца ў рамане, але істотна дапаўняюць агульную карціну: пажылая настаўніца Марыя Іванаўна, падпольшчыца Дзянісава, сям'я Вадэйкаў і г. д.

Але перад намі разгортваецца не проста малюнак дачыненняў, аб'яднаных адной вялікай падзеяй. Раман пранізвае важная абагульняльная думка аб гераічнай сутнасці народнага змагання, аб духоўнай велічы савецкіх людзей, аб непарыўнай духоўнай сувязі часова захопленых фашыстамі зямель з усёй савецкай краінай. Гэта думка, апрача вобразна-сюжэтнага выяўлення ў размовах і ўчынках дзейных асоб, актыўна развіваецца самім аўтарскім апавяданнем, набываючы то лірычную ўсхвалявансць, то пафаснае гучанне.

Пераходы ад аб'ектыўнага раскрыцця падзей да лірычнай суб'ектыўнасці, ад побытавага да філасофскага ажыццяўляюцца ў рамане «Сасна пры дарозе» з арганічнай лёгкасцю. Праўда быцця і змагання ў «заштатным» мястэчку Бацькавічы набывае большую значнасць ад таго, што вобраз сасны атрымлівае яшчэ і сімвалічнае гучанне ў рамане, як увасабленне народнай жыццястойкасці. Змест рамана ўзбагачаецца пафаснымі ўнутранымі маналогамі, у якіх «узбуйняецца» і падагульваецца сутнасць перажытага героямі твора. Так, у канцы рамана аўтар, складана яднаючы Міцеў настрой з уласнай думкай, быццам знаходзіць эмацыянальны і філасофскі вынік таму, што прайшло перад героямі рамана (і перад намі, чытачамі) у «Сасне пры дарозе». У Міцевай памяці ўсплывае «вядомы верш, які напісалі немец Гейнэ і рускі Лермантаў».

«Кнігі, якія чытаў Міця, многа сказалі пра чалавека. Але не ўсё. Чалавек можа падняцца яшчэ вышэй. Хіба назавеш проста гераізмам тое, калі за Радзіму людзі аддаюць не толькі сваё жыццё, але і жыцці родных, блізкіх. Ведаюць, што іх чакае, і аддаюць. Гэта той высокі парог, пра які не напісана ў старых добрых кнігах.

Але і нізкім можа быць чалавек. Такім нізкім, як і ў далёкія часы стэпавых набегаў.

Дык у чым жа сэнс верша пра сасну, напісанага двума вялікімі паэтамі? Можа, у тым, што ўсё адолее чалавек. Адолее і будзе жыць. Ніколі не перастане марыць, змагацца за лепшыя, сонечныя дні. За прыгажосць. У гэтым аснова жыцця».

Гэтае разважанне сапраўды вынікае з рамана. Раман, канцэнтруючы ў сабе значную жыццёвую і мастацкую праўду, мае

вялікае выхаваўчае значэнне, паказвае той «высокі парог» патрыятызму і ахвярнасці, які ўласцівы быў савецкім людзям, услаўляе волю і непахіснасць нашага народа, што ва ўмовах самага суровага выпрабавання застаўся верным сацыялістычным ідэалам.

Раман «Сасна пры дарозе» заканчваецца тым, што абходчык Сцяпан Птах, бацька Міці, у час абходу свайго ўчастка трапляе на партызанскую засаду і сам дапамагае падрыўнікам спусціць з рэек фашысцкі эшалон.

Раптоўна абрываючы твор фразай: «Перад крывой пачуўся гул цягніка...» — пісьменнік пакідаў адчуванне, што дзеянне яшчэ не завершана.

І неўзабаве пасля «Сасны пры дарозе» з'явіўся новы раман Івана Навуменкі «Вецер у соснах», які засведчыў, што пісьменнік сапраўды не меў намеру развітацца са сваімі героямі. Празаік выкарыстаў магчымасць паказаць у новым рамане народнае супраціўленне ў большым маштабе, раскрыць партызанскі рух у сюжэтным развароце, які не вымагаў доўгай экспазіцыі. Так нарадзіўся працяг «Сасны пры дарозе».

Сцяпан Птах, баючыся за лёс сям'і, хацеў застацца ў баку ад падпольшчыкаў і партызанскай барацьбы. Як бачым, гэта яму не ўдалося. У рамане «Вецер у соснах» Іван Навуменка пераканаўча паказвае, што нейтральнай, староннняй пазіцыі ў велізарным супрацьборстве народа з захопнікамі быць не можа. Сумленны чалавек мог заставацца сумленным толькі пры ўмове, што пераходзіў на бок барацьбітоў. Не мог застацца «над барацьбой» ні Аўгуст Крамер, ні Эрна Турбіна, якая становіцца партызанскай сувязной.

Партызанскі рух паўстае з рамана «Вецер у соснах» ужо як вялікая баявая, палітычная і маральная сіла жыцця, як вынік маналітнай згуртаванасці партыі і народа. «За кожнай з такіх дробных груп, якія выйшлі на заданне, стаялі памочнікі з вёсак, мястэчак, гарадоў, яны наводзілі партызан на цэль, перадавалі патрэбныя звесткі, папярэджвалі аб небяспецы...» — чытаем мы на адной са старонак рамана «Вецер у соснах». Як нам здаецца, тут з публіцыстычнай аголенасцю выказана тое, што складае галоўны змест і ўнутраны пафас твора.

Раманы Івана Навуменкі маюць складаную жанравую структуру і разгалінаваны сюжэт. У іх мы знойдзем і элементы сямейнай хронікі, і прыкметы твора пра маладое пакаленне, і прыгодніцкія па сюжэтнай напружанасці раздзелы, і атрыбуты псіхалагічнага рамана. І гэта не штучная складанасць — яна адпавядае самой сутнасці апісаных падзей і выяўляе іх глыбінную праблематыку. Грамадскае і асабістае, гераічнае і трагічнае, гра-

мадзянскае і інтымнае, сямейна-бытавое і гістарычнае, узаемаадносіны чалавека і калектыву — вось праблемы, якія ставіць аўтар і якім дае пераканаўчае мастацкае вырашэнне.

Наступны раман «Вецер у соснах» стварауся як працяг «Сасны пры дарозе». Гэта цікавы і праўдзівы твор аб партызанскім руху. Беларуская літаратура мае нямала твораў, якія добра асвятляюць гэтую тэму. Можна прыгадаць «Глыбокую плынь» І. Шамякіна, «Векапомныя дні» М. Лынькова, «Партызаны» А. Адамовіча і г. д. І ўсё ж Іван Навуменка не толькі здолеў сказаць сваё слова, ён у святле шырокага кола падзей і фактаў з сапраўднай мастацкай дакладнасцю паказаў вытокі і асаблівасці барацьбы, умовы і абставіны дзейнасці атрадаў у першыя гады вайны, «шматслойнасць» партызанскага руху і яго сувязі з насельніцтвам, не абмінуў асобныя пралікі, памылкі і паражэнні партызан, раскрыў асаблівы драматызм баёў, блакад, засад.

Раман «Сорак трэці» зноў вяртае нас у добра вядомы і ўпадабаны намі свет.

Зноў Бацькавічы, роднае мястэчка герояў Навуменкі.

Зноў няўрымслівы і летуценны Міця Птах. Яго цнатлівае каханне да Сюзаны, яго рамантычнае перажыванне вялікіх падзей, яго думкі, справы.

Зноў Крамер — з яго наіўным практыцызмам і неажыццявімай (гэта ўжо становіцца відавочным і яму самому) ідэяй утрымаць акупантаў ад жорсткіх распраў і адначасова зменшыць актыўнасць партызанскага руху.

Зноў партызаны — і кіраўнікі партызанскай барацьбы, і радавыя байцы: Бондар, Мазурэнка, Драгун, Яўтушык...

Зноў прыходзяць да нас Сцяпан Птах, Міцевы сябры — Мікола, Лобік, Гарнак. І млынар Забела. І дарожны майстар Адамчук. І ўсё тая ж Эрна Турбіна з яе прагай жаночага шчасця...

Але пісьменнік хутка пераконвае нас, чытачоў, што новы раман з'яўляецца патрэбнай і самастойнай у ідэйна-мастацкіх адносінах часткай трылогіі. Дзеянне рамана «Сорак трэці» рухаецца не адной толькі інерцыяй ранейшых сюжэтных ліній. У рамане шмат знаёмага, але багата і новага — таго, што з'яўляецца ў пэўным сэнсе новым для ўсёй нашай літаратуры. Надышоў сорак трэці, змяніўся час і абставіны. У новую фазу ўступіла народнае супраціўленне. Набліжаецца доўгачаканая, выпакутаваная і заслужаная перамога. У сорак трэцім ужо ступіць савецкі воін на вызваленую беларускую зямлю — знявечаную і непераможную.

Навуменка-мастак дакладна адчувае і паказвае новую атмасферу, чуйна фіксуе перамены ў настроях і народных мсціўцаў, і розных местачкоўцаў, і ворагаў.

Гісторыя набліжана літаральна да кожнага з персанажаў. Яны жывуць і дзейнічаюць у рамане суадносна з яе вялікімі і меншымі падзеямі, і пісьменнік трапна выяўляе індывідуальна-псіхалагічнае адбіццё гэтых падзей у свядомасці і развіцці характараў сваіх герояў.

З радыё, лістовак, нават з паведамленняў саміх акупантаў усё часцей даходзяць весткі аб перамогах савецкіх войск. Раман «Сорак трэці» і пачынаецца з паведамлення аб эпахальнай падзеі — разгроме фашысцкіх войск пад Сталінградам.

А неўзабаве — хвалюючыя весткі аб новых нашых перамогах. Мацнее адчуванне сувязі партызанскай барацьбы з бітвамі на фронце. Расце, дужэе партызанскі рух. Цэнтралізуецца кіраўніцтва ім, фарміруюцца вялікія партызанскія злучэнні: «Наступае новы этап партызанскага руху. Ён не толькі ў тым, што рух становіцца масавым, што да яго далучаюцца новыя тысячы вясковых, гарадскіх жыхароў, а і ў тым яшчэ, што ствараюцца своеасаблівыя, у палітычных, эканамічных адносінах, партызанскія раёны...»

І тут, у новым рамане, пісьменнік, паказваючы партызанскую барацьбу як «патрыятычны, сацыяльны пратэст народа», што жывіцца з крыніц вялікай маральнасці і сацыялістычных грамадскіх ідэалаў, не стойвае і не абыходзіць супярэчнасці гэтага руху, смела паказвае і памылкі, няўдачы, часовыя хістанні ў асяроддзі партызан, паказвае не толькі станоўчае, але і адмоўнае, што надаралася часам у партызанскім побыце. Так, былі вялікія подзвігі, была вялікая барацьба. Бывалі і прыкрыя памылкі...

Пісьменнік не быў бы сапраўдным мастаком, калі б зусім прагледзеў, абышоў гэтыя прыкрыя прыватнасці. Не, у спрэчцы агранома Драгуна, цяпер палітрука партызанскай роты, з братам Раманам, які спадзяецца разжыцца ва ўмовах «цвёрдых» акупацыйных парадкаў, усё гэта пададзена праз успрыманне і «філасофскія» высновы ўласніка, бадай што здрадніка Рамана (дзеля ўласнай выгады дапамагаў параненаму немцу). Гэты ўсё пералічыў, усё згадаў, усё перабраў. І тое, што да вайны «ў нашым калгасе парадку не было», і што нарыхтоўшчыкі «любілі з партфелямі бегаць», і што на першым этапе вайны савецкія войскі адступілі «да Масквы», і што партызаны не адны анёлы.

Аграном пераканаўча разбівае ўсе гэтыя довады Рамана, выкрывае іх шкурніцкую сутнасць. Галоўны ж довад — само жыццё. Дарэмна намагаўся Раман ухіліцца ад ходу падзей. Яму суджана было загінуць ад куль фашысцкіх карнікаў.

Карныя экспедыцыі, блакады — страшная паласа ў гісторыі вайны. Пад вынішчальным агнём гінуць вёскі разам з людзьмі, праз суровыя выпрабаванні праходзяць партызаны.

У жывой узаемасувязі, густым перапляценні самых розных падзей — і франтавых перамог, і партызанскіх аперацый, і карных блакад, і веснавой сяўбы, і «рэйкавай вайны», душэўнага ўзрастання адных і маральнага падзення другіх — рухаецца ўперад дзеянне рамана і паўстае ў сваёй гістарычнай значнасці і вялікай жыццёвай, эмацыянальнай насычанасці год сорак трэці.

Гэта быў год новых роздумаў і новых унутраных высноў не толькі для Бондара або Міці Птаха, але і для такіх, як паліцэйскі начальнік Лубан або бургамістр Крамер.

Нешта новае чуецца ў агульнай танальнасці гэтага твора: здаецца, лірызм становіцца тут больш узнёслым, урачыстым. Неаднойчы на хвалі гэтай узнёсласці з'яўляюцца лірыка-публіцыстычныя адступленні, перастройваюцца адпаведна ёй і некаторыя ўнутраныя маналогі і нават размовы герояў. І ў гэтым — таксама атмасфера часу, новых надзей, радасных спадзяванняў. Мастацкая сіла рамана праяўляецца і ў гэтым — ва ўменні арганічна звязаць агульны пафас твора з яго асобнымі эпізодамі, давесці галоўныя аўтарскія думкі ў абалонцы добрай мастацкасці.

Можна нагадаць шмат яскравых эпізодаў, у якіх асабліва выразна выявілася майстэрства празаіка. Напрыклад, згаданую ўжо вышэй спрэчку Драгуна з братам — вострую, напружаную, са сваімі псіхалагічнымі і эмацыянальнымі адценнямі. Трапна, дакладнымі штрыхамі паказаны прыход Лубана ў партызаны. А размовы партызан... Не вялыя, выпадкова-інфармацыйныя, а жывыя, з добрай, «гаваркой» фразай і ўнутраным напаўненнем. І спрэчкі пры фарміраванні брыгад, і партызанскае застолле, у час якога весела размяркоўваюць партызаны свае будучыя пасляваенныя пасады, і сустрэча Бондара з бацькам, і выкрыццё шпіёнкі ў атрадзе.

Нават і сюжэтныя адгалінаванні, звязаныя з уцёкамі Сцяпана Птаха з канцлагера ў Германіі і гібеллю фашысцкага карніка Вілі Сташынскага па-свойму дапаўняюць важнымі штрыхамі агульны малюнак жыцця і барацьбы беларускага народа ў гады Вялікай Айчыннай вайны.

...І вось апошняя старонка рамана «Сорак трэці», заключны акорд усёй трылогіі Івана Навуменкі:

«Добры дзень, будка, сасна, роднае мястэчка! Вось я і прыйшоў да вас, вольны, незалежны. Веру, што чужая навала не кране вас болей ніколі. Не павінна крануць. Столькі людзей за гэта загінула... Міця, выбраўшыся на грудок, стаіць пад сасной. Прыгожае адсюль мястэчка. Такое, як тады, да вайны. Толькі два гады таптаў родную зямлю вораг, а здаецца, прамінула вечнасць».

Можна не сумнявацца, што трылогія Івана Навуменкі належыць да самых значных дасягненняў не толькі самога пісьменніка, але і ўсёй беларускай літаратуры. Мастацкае, выяўленчае тут суладна паяднalася з грамадзянскім, патрыятычным. Пісьменнік, як добра зазначыў Нічыпар Пашкевіч, удала паказаў у сваіх творах «...не толькі, як праявіў сябе народ у крытычны момант сваёй гісторыі, але і што ён набыў для сваёй будучыні...».

У рамане «Смутак белых начэй», апублікаваным у 1979 годзе, Іван Навуменка таксама расказвае аб падзеях ваеннага часу. У героях рамана мы пазнаем ужо шмат у чым вядомых нам па ранейшых творах празаіка тых маладых патрыётаў, рыцараў свайго часу, якім суджана гартавацца і сталець у суровых абставінах вайны.

Былыя местачкоўцы-падпольшчыкі і партызаны трапляюць на фронт, прымаюць удзел у баях на Карэльскім перашыйку летам 1944 года. Яшчэ, здаецца, не было ў І. Навуменкі такога драматычна напружанага, збалелага твора. У рамане не проста паказваецца, як прывыкаюць хлопцы да новых, нязвыклых для іх абставін.

Праз безліч трапных, дзівосных па дакладнасці і пісьменніцкай памятлівасці падрабязнасцей раскрываецца свет чалавека на вайне, напаўняецца псіхалагічным зместам сам час, паўстае велічная і сурова-трагічная карціна змагання на тым этапе вайны, калі наша армія наносіла ворагу рашаючыя ўдары.

Моцная плынь аўтарскага лірызму зліваецца з настроямі і перажываннямі герояў твора. Ва ўмовах жорсткіх баёў ледзьве не ўсім землякам-местачкоўцам, што разам пайшлі на вайну, наканавана загінуць. І яны амаль што адчуваюць непазбежнасць гэтай гібелі, з вялікай інтэнсіўнасцю перажываючы хараство, прывабнасць жыцця. Перамога, жаданы мір — так блізка! Свет для іх не звужаецца да межаў акопа і франтавой паласы. Наадварот: яны ўвесь час у думках, марах, снах вяртаюцца да родных мясцін і разважаюць аб агульнанародным і ўсечалавечым. Драматызм рамана ўзмацняецца тым, што ваенныя «кроў, гразь і бруд», якія ў творы паказваюцца ў іх сапраўдных, рэальных праявах, кантрастуюць з высокай адухоўленасцю юнакоў-патрыётаў, якія носяць у сабе «шырокі, мнагалучны свет».

Лірызм і патэтычнасць не выроўніваюць характары герояў. Сяргей Каліноўскі, Косця Цiток, Васіль Лебедзь, Косця Русаковіч, Мялешка, Рагамед, Герасімовіч маюць сваё аблічча і характар, выразна адрозніваюцца ладам перажыванняў і паводзін. Амаль усе яны гінуць, і кожная новая смерць выклікае ў нас свой, непаўторны боль — як за людзей, якіх ведаеш і любіш.

Апісанні баёў, узаемадзеяння родаў войск, шматлікіх подзвігаў савецкіх салдат уражваюць выключнай праўдзівасцю. Аўтар умее не толькі паказаць, як разгараецца імпэт наступлення, «з нябачных, няўлоўных рухаў ствараецца пераможны дух зладжанасці, мэтазгоднасці дзеяння соцень людзей», але і баявы парыў Чубакова і Васіля Лебедзя, Адама Каліноўскага, Рагамеда, Косці Русаковіча і многіх іншых байцоў.

Прачытаеш раман, і многія, на дзіва прадметныя, канкрэтныя апісанні, як намаляваныя, стаяць перад вачамі; асеўшы ў памяці, яны потым не раз узнікаюць перад унутраным зрокам. І выразна бачыш «вогненна-сінія палосы кінжальнага кулямётнага агню» з браніраванага дота-каўпака, дзе засеў «апанаваны крыважэрнасцю воўк», і «голы, як бубен, пляц», на якім залеглі наступаўшыя, і — ва ўсіх дэталях — рухі, дзеянні Адама Каліноўскага, Рагамеда і Косці Русаковіча ў адзін з момантаў, пра якія І. Навуменка піша, што такія часта бываюць на вайне, «калі, каб выратаваць другіх, астаецца некаму памерці». Вось Адам Каліноўскі, які «залёг трохі наўзбоч ад вогненных трас», кідае, прыўзняўшыся, гранату. Тут жа падае і не варушыцца. «Прыкмеціў яго воўк». Шукае зручнага моманту Рагамед, разумеючы, што іншага выйсця няма: «Такі, як пад каўпаком, воўк... выкасіць дашчэнту роту».

Тонка, з выключнай псіхалагічнай праўдзівасцю, не парушаючы дынамікі падзей, «занатоўвае» пісьменнік апошнія думкі, успаміны герояў.

«Рагамед ні страху, ні жалю да сябе не адчувае. Настала яго чарга. Трэці раз на Карэльскім перашыйку... Шчыльна прыціскаючыся да зямлі, Рагамед паўзе. Выбірае момант, калі кулямёт на імгненне змаўкае. Прыкідваецца забітым, затым зноў і зноў паціхеньку дзярэцца да каўпака.

Цяпер ён успамінае, дзе такое было. Восенню першага года вялікай вайны. Пад Неўскай Дуброўкай... Біліся супроць дэсанта, выкінутага на пясчаную касу. Біў з-за каменя вогненна-сіні сноп кулямётнага агню. Рагамед поўз да каменя. Іншага выйсця не было. Як цяпер...»

Рагамеду не ўдалося дацягнуцца да каўпака: кулі прашылі яго «ад грудзей да нізу жывата». І Косця Русаковіч, які з самага пачатку разгадаў намер Рагамеда, цяпер наважыўся сам. «Каму яшчэ? Ён бліжэй за астатніх падабраўся да каўпака. Думка працуе ясна, выразна. Галоўнае, трэба вылезці з-пад абстрэлу.

Кулямёт па-ранейшаму захліпаецца вогненнымі пырскамі. На імгненне Косця бачыць заплаканы твар Насці... Насці дадуць пенсію, думае Косця...

Кулямёт змаўкае. У гэтае імгненне Косця з усім спрытам матляецца ўбок... Вырваўшы чаку з лімонкі, Косця шпурляе гранату пад самы вогненны струмень. Выбуху не чуе — адчувае толькі, як штосьці гарачае, пранізлівае ўпіваецца яму ў ногі, грудзі, руку. Ён яшчэ добра валодае сабой, усё бачыць і чуе. Кулямёт змоўк. Але як толькі ад зямлі падымаюцца шынялі, гімнасцёркі, пачынае сячы яшчэ з большай сілай. Напружыўшы апошнія сілы, Косця ўстае... робіць два-тры крокі, затым падае сваім доўгім целам на вогненны струмень. Байцы падымаюцца, бягуць...» Чытаеш, і бачыш, і верыш: толькі так яно магло быць.

Раман выклікае гарачы пратэст супраць вайны, раскрывае вытокі гераічнага ў савецкіх людзей, прымушае шмат над чым задумацца, уздымае нас да вышынь адказнага, напоўненага жыцця, каб быць вартымі гэтых цудоўных патрыётаў і жыццялюбаў.

Мы глыбей, паўней усведамляем, што такое шчасце, чалавечнасць, абавязак, подзвіг, Радзіма — усё гэта было вялікай і важнай часткай унутранага свету герояў рамана.

Трагізм рамана дасягае той мяжы, калі ледзьве не адзіны, хто застаўся жывым з галоўных герояў,— Сяргей Каліноўскі ў роспачы шукае сабе смерці. Гэты часовы яго стан раскрыты таксама надзвычай праўдзіва і дакладна. Але ўвесь твор прасякнуты аптымізмам, высокай верай у чалавека, у яго сілы і магчымасці. Смутак, журба не абязвольваюць нас, а ўзмацняюць сілу нашага суперажывання. Раман, канцэнтруючы асноўную ўвагу на маладых героях, трымае ў полі зроку вялікі абсяг народнай вайны і набывае маштабнасць аб'ёмнага мастацкага твора.

Пакаленне Івана Навуменкі панесла вялікія страты. У суровых выпрабаваннях яно не разгубіла, а загартавала высокія ідэалы. Ёсць асаблівы сэнс у тым, што пісьменнік, прадстаўнік гэтага пакалення, так таленавіта і акрылена сцвярджае і адстайвае камуністычныя ідэалы чалавечнасці, шчырасці, патрыятызму ў творах, якія, узнімаючы самы розны жыццёвы матэрыял, прасякнуты ўнутраным адзінствам маральных і грамадзянскіх асноў.

Сучасная беларуская проза багатая на моцныя таленты і яркія творчыя індывідуальнасці. Проза Івана Навуменкі займае сваё пачэснае месца ў беларускай літаратуры. Яе рамантычная прыўзнятасць, асаблівы лірызм, праніклівы псіхалагізм, адметнасць увасобленага жыццёвага матэрыялу, высокая маральнасць выклікаюць вялікі водгук ў чытачоў. Талент пісьменніка раскрываецца шырока і шчодра і дае падставы верыць у яго новы багаты плён.

...Перад тым як напісаць гэтую прадмову да шасцітомнага выдання Збору твораў папулярнага пісьменніка Івана Навуменкі, яшчэ раз уважліва перачытала яго творы. Перачытала з цікавасцю, і многае ў іх па-новаму адкрылася і захапіла мяне. А пасля паспрабавала ўявіць сабе чытача, які ўпершыню будзе знаёміцца з творчасцю пісьменніка, знаёміцца па гэтым выданні. Такі чытач, мяркую, будзе шмат што ўспрымаць трохі іначай, чым той, хто ведае творчасць Івана Навуменкі, даўно пачаў цікавіцца яго кнігамі. Аднак верыцца, што ён таксама з хваляваннем успрыме вялікі, асаблівы, эмацыянальна-напружаны і змястоўны мастацкі свет, створаны пісьменнікам больш як за тры дзесяцігоддзі напружанай плённай працы.

*Ларыса Кароткая*

# СНЕЖАНЬ

Мне гэты боль знаёмы...
*Г. Гейнэ*

## 1

На свеце быў снежань, сумны, бясснежны. Аднастайна і нудна гулі вечарамі тэлеграфныя слупы з абарванымі правадамі. Правады былі парваны не ўсе, два ці тры асталіся цэлыя і звінелі на марозе, як струны, перадаючы свой балючы сум мёрзламу дрэву слупоў. Правады былі мёртвыя: па іх ніхто не вёў цяпер ніякіх размоў. Там, за раённым мястэчкам, тэлеграфныя слупы бралі разгон, беглі ўздоўж шашы, не баючыся ўзгоркаў і нізін, мінаючы сёлы і гарады. Куды яны беглі? Да вайны, мабыць, у самую Маскву, а цяпер — нікуды, бо пад Масквою фашысты.

Мястэчка замёрла, стаіўшыся ў змроку снежаньскай ночы. У пасажырскай зале чыгуначнай станцыі разгульвае вецер, семафор стаіць з апушчаным крылом з самага лета, а чорныя стрэлкі з выбітымі шкельцамі ліхтароў нагадваюць у цемені надмагільныя крыжы.

Да вайны ў мястэчку была электрычнасць, а цяпер яго жыхары нібы перавандравалі ў каменны век: яны асвятляюць сваё жытло пры дапамозе лучыны і валоўяга тлушчу. Зыркае яркімі агнямі толькі адзін будынак — сярэдняя школа. Там цяпер нямецкі камендант, яго канцылярыя і ахова. Людзі па вуліцах ходзяць неяк бокам, у іх неспакойныя, мітуслівыя вочы. У мястэчку паявілася некалькі самагоначных апаратаў. Але паліцэйскія стараюцца гэтага не бачыць. І самагонку гоняць кожнае ночы. Вечарамі ў мястэчку гуляюць у карты.

З нейкіх шчылін павылазілі варажбіткі. Яны кладуць рукі на стол, нешта яму загадваюць, і стол нібыта грукае ўсімі чатырма ножкамі, адказваючы на пытанні варажбітак.

Да вайны ў мястэчку было тры школы: дзесяцігод-

Стаіць цёплы вераснёвы вечар, і проста грэх у такі вечар не абнімацца, не цалавацца...

— Чаму сам так не жывеш? — пытае Хомчык.

Траяноўскі зацінаецца. Пра жонку ён ніколі нічога не расказвае. У дваццаць гадоў, калі яшчэ вучыўся ў інстытуце, ажаніўся, аднак лісты ад жонкі атрымлівае рэдка, і сам ёй не піша. Хомчык даўно здагадваецца, што жаніцьба яго таварыша не радуе. Хто тая невядомая жанчына?

— Я думаю, вайна нічога не спісвае,— разважае Хомчык.— Мы панясём і добрае і благое з вайны.

У гэтую хвіліну ён думае пра выпадак, калі яшчэ там, у Германіі, з палка дэмабілізавалі некалькі дзяўчат, якія зацяжарылі.

## III

Назаўтра мусіла быць тое самае — млявыя заняткі, вывучэнне статутаў, вечарам танцы пад дубамі — каб раптам не вынікла нечаканая навіна: скончылася вайна з Японіяй.

Прывід гэтай вайны ўсё ж вісеў над палком, бо некаторыя сувязісты, не могучы ўтаймаваць радасць, яшчэ днём, у службовы час, пакаштавалі самагонкі. Гэта было ЧП. І начальства неадкладна прыняло меры: чалавек восем было пасаджана на гаўптвахту, танцы адменены.

ЧП тым не меней працягвалася. Гаўптвахту абсталявалі ў напаўразбураным панскім доме, прайсці туды, нягледзячы на вартавых, было не вельмі цяжка, і спагадлівыя таварышы арыштаваных здолелі-такі перадаць ім некалькі бутэлек. Падвяселеная градусамі «губа» ноччу заспявала пра трох танкістаў...

Загадам па палку выпіўка была прыроўнена да найцяжэйшага злачынства. Жанчын з кошыкамі, якія вандравалі вакол парку, нібы ветрам здзьмула.

Старшына Хомчык жыве ў будзе разам з маладшымі лейтэнантамі Лімарам і Зускіным. Лімар — малады, шыракаплечы, з даволі прыгожым, засеяным вяснушкамі тварам, на якім асабліва выдзяляюцца падпухлыя губы і зеленавата-жоўтыя, круглаватыя, як у ката, вочы.

У полк Лімар трапіў у самым канцы вайны, і цяпер


18 Зак. 937

вельмі задаволены, што яго прызначылі камандзірам страявога ўзвода. Свой будучы лёс ён звязвае з арміяй.

Як ні дзіўна, але прыкладна такія ж сяганні ў Зускіна, хоць яму пад сорак, а на пагонах адна толькі зорачка.

У адзін з тых дзён Лімар просіць Хомчыка:

— Ты пасля абеду не прыходзь. Салон мне самому патрэбен.

Хомчык ведае прычыну. За Лімарам, нібы цень, блукае доўгая, непрыгожая, знешне падобная на бутэльку сувязістка.

Выпадак на гаўптвахце пакрысе забываецца, і танцы пад дубамі адноўлены зноў. Начальства проста вымушана дазволіць гэтыя танцы, бо чуткі пра дэмабілізацыю дзяўчат робяцца рэальнасцю. Ужо вядома, што рыхтуецца загад, у штабе афармляюцца дакументы.

Лёс нарэшце робіцца літасцівым і да Хомчыка. Развітаўшыся з Траяноўскім, ён на сцяжынцы, наводдаль ад палатак і буданоў спатыкае Таню. Яна адна. Яшчэ звініць радыёла, чуюцца галасы, а яна, самотная, вандруе ў адзіноце.

О, гэты Хомчык даволі змыслы чалавек! Ён даўно марыў пра такую сустрэчу, нават прадбачыў яе. Таму загадзя абдумаў сякія-такія варункі і захады. На схіле пагорка, у густым вішняку, ёсць вельмі прыдатны, зарослы травой гурбочак, на якім можна пасядзець, як на лавачцы. Хомчык вядзе туды Таню, і яна ахвотна ідзе.

Яны сядзяць, размаўляюць, як бы навыперадкі расказваючы кожны пра сябе. Таня з Поўначы, з Яраслаўскай вобласці, і Хомчыку прыемна чуць яе трохі нязвыклую, напеўную гаворку, працяглае «о» нават у тых словах, дзе масквіч Траяноўскі прамаўляе «а».

Не меней прыемна Хомчыку адчуваць побач з сабой ладнае, зграбнае Таніна цела, нават у шэрані ночы выдзяляць рысы яе мілага круглаватага твару, высокія грудзі пад салдацкай гімнасцёркай, на якой прышыты чорныя (як ва ўсіх тэхнічных войсках) пагоны са срабрыстым старшынскім малатком.

Хомчык — ён нібы даказвае гэта самому сабе — яшчэ і даволі смелы чалавек. Ён раз-пораз цалуе Таню, і яна не ўхіляецца ад пацалункаў. А хіба ён не мае на гэта права? З Таняй яны знаёмы даўно, і проста

так здарылася, што не мелі магчымасці спаткацца, застацца адзін на адзін.

У Хомчыка хмельна кружыцца галава. Даўно перастала іграць радыёла, наступіў час адбою. Полк спіць. Але навошта ім з Таняй сон? Свеціць месяц, і, здаецца, там, унізе, ля руін палаца, плюскоча хвалямі рэчка, а над яе берагамі трымціць туман. Нібы вясна, нібы спяваюць у зарасніку салаўі — такое адчуванне.

Яны выходзяць са сховішча толькі пад раніцу, калі зоркі на небе пачынаюць бляднець. Кепска адно: Хомчык не можа выканаць свой кавалерскі абавязак і правесці Таню да буданчыка. Калі пойдуць удваіх, іх паставыя «засякуць». Па адным жа як-небудзь можна прашмыгнуць.

Заўтра на гэтым месцы яны зноў сустрэнуцца...

Яны сыходзяцца ў зарасніку яшчэ два разы. Збліжэнне настолькі нечаканае, імклівае, што Хомчык губляе раўнавагу. Ён, як раней, праводзіць з байцамі заняткі па дысцыплінарнаму статуту, але не ў прыклад папярэднім дням ніяк не можа знайсці патрэбны тон. Можа, па той прычыне, што яго распірае радасць, ён дарує цяпер недакладныя адказы, блытаецца сам, збіваючыся нават на тых параграфах, якія ведае назубок.

Няўважлівы ён і да Траяноўскага. Вечарам яны сустракаюцца, стаяць ля танцавальнай пляцоўкі, але Хомчык увесь час думае пра Таню, з нецярпеннем пазіраючы на свой наручны гадзіннік. Што ж, ён не лепшы за Канцавога.

Дзіўныя стаяць вечары і ночы. Ахутаныя месячным мроівам дрэвы, кусты, зорнае неба, нерухомае цёплае паветра, музыка, якая ліецца з радыёлы, вальсы і танга пад аздобленымі электрычнымі лямпачкамі дубамі — уся гэтая прыгажосць нібы апошні дарунак дзецям вайны, якія ў хуткім часе раз'едуцца, каб ніколі болей не сустрэцца.

У памяці Хомчыка ўсплываюць вычытаныя яшчэ ў школьныя гады радкі і звіняць у вушах несупынна:

> Спит как во сне зачарованный сад,
> Ночь в бирюзе утопает,
> В воздухе носится рой серенад,
> Кто-то безумно рыдает...

Нейкай трывогай вее ад гэтых радкоў. У чым яна, дзе? Хомчык не ведае,

Вярнуўшыся з выраю, птушкі пачынаюць віць гнёзды — так думае Хомчык пра тых, хто робіць няхай сабе яшчэ нясмелыя, першыя захады, каб неяк асталявацца ў мірным жыцці. Да такіх ён адносіць сябе і лейтэнанта Канцавога, які хутка месяц прападае ў беленькай настаўніцы.

Таню дэмабілізуюць, а ён, Хомчык, магчыма, застанецца служыць, але пачнецца зусім іншая служба, бо ён будзе ведаць, што яго чакае дзяўчына. Ні аб чым сур'ёзным ён пакуль не думае, яму трэба вучыцца, але ўсё адно яго жыццё стане другім, зусім другім...

У палку ёсць людзі, якія і аб сур'ёзным падумалі. Прыклад — старшы лейтэнант Пятакоў, камандзір групы бліжняй разведкі, непасрэдны Хомчыкаў начальнік. Як толькі скончылася вайна, ён афіцыйна сышоўся з радысткай Зінай Варанцовай, такой жа, як і сам, чарнявай, маўклівай, гаспадарлівай. У іх цяпер усё агульнае — будка на калёсах, куды Зіна носіць кацялкі са сняданкамі і абедамі. Ёсць падобныя прыклады сярод сержанцкага і нават радавога саставу, хоць тым парачкам асобных будак, вядома, не выдзелілі.

Недзе тут пачынаецца Хомчыкава трывога. Таня да яго блізкая, прыхільная толькі пры патаемных спатканнях, а днём, на людзях, яна па-ранейшаму трымаецца як незнаёмая.

Падзеі між тым нарастаюць. З раніцы ў палку паявіўся апрануты ў сіні цывільны касцюм чалавек, і ўсе пазналі ў ім былога камандзіра радыёроты капітана Белага. З капітанам здарылася няшчасце менавіта ў той дзень, калі скончылася вайна. Радысты аб гэтым першыя даведаліся, наладзілі банкет, на якім тры чалавекі атруціліся кансервамі, якія недзе раздабыў увішны камандзір. Капітана судзілі. Але добра тое, што добра канчаецца. Амністыя з нагоды перамогі над Германіяй скасавала капітану большую палавіну вызначанага судом тэрміну турэмнага зняволення, нядаўняя — пасля перамогі над Японіяй — астатнюю.

У той жа дзень, апоўдні, урачыста адпраўлялі дамоў першую групу дэмабілізаваных дзяўчат. Грымеў аркестр, начальнік штаба, парторг, іншыя вядомыя людзі палка гаварылі прамовы, уручалі дзяўчатам баявыя граматы. Яны стаялі ў страі ў сваіх мытых-перамытых гімнасцёрках, наваксаваных кірзавых ботах,

з ордэнамі, медалямі, але з выгляду прыціхлыя, разгубленыя...

Таню з першай групай не адправілі, але Хомчык з ёй усё адно не спаткаўся. Вечарам танцаў не было, полк раставаў на вачах, настрой быў такі, што не да танцаў, а назаўтра Хомчыка паслалі на хлебанарыхтоўкі. У затуленай між асенніх пажаўцелых пагоркаў вёсачцы Хомчык разам з байцамі і камандзірамі пражыў цэлы тыдзень: звозілі збожжа на такі, малацілі, грузілі на машыны.

Калі Хомчык ад'язджаў, да яго падышоў нізенькі, рабаваты, апрануты ў пакамечаную парусінавую гімнасцёрку лейтэнант — камандзір аднаго з лінейных узводаў — і сунуў яму ў рукі надпісаны чарнільным алоўкам трохкутнічак. Ліст адрасаваўся Тані Верашчагінай.

Хомчык напачатку нічога кепскага не падумаў. Але, калі ён вярнуўся ў полк, Тані ўжо не было, наогул нікога з дзяўчат не было — іх усіх паспелі адправіць дамоў.

Хомчыка чакала запіска — у ёй Таня паведамляла адрас, перадавала прывітанні, прасіла пісаць.

Хомчык мог бы проста адправіць лейтэнантаў трохкутнічак па адрасе, але на яго раптам нахлынула падазрэнне, рэўнасць, ён некалькі дзён вагаўся і, нарэшце, не вытрымаўшы, праклінаючы самога сябе, разгарнуў трохкутнічак.

Гэта быў канец. Лейтэнант у сваім пасланні нарабіў мноства памылак, але пра характар яго адносін з Таняй сумнявацца не выпадала...

Далёкія, палітыя крывёй дарогі віхурнай маладосці. Хто адважыцца кінуць камень у тых, хто па іх прайшоў?..

*1974*

# ЛІСТОЎКІ СОРАК ПЕРШАГА ГОДА

Расцягнутым ланцужком разведчыкі сталі выходзіць на ўскраек сасонніку, маўкліва спыняючыся і аглядаючы раўніну, якая рассцілалася перад позіркам. Раніца ўбіралася ў сілу, наперабой шчабяталі птушкі, і было чуваць яшчэ, як пазвякваюць у рэчавых мяшках хлопцаў, што ідуць ззаду, запасныя аўтаматныя дыскі. Наперадзе ляжала вёска, справа, ахутанае туманам, віднелася люстэрка азярка, з левага боку, крыху наўзбоч, узвышаўся парослы сасоннікам пагорак. На пагорку, на самай седлавіне, стаяў аздоблены надбудоўкамі палац ці замак — такіх многа траплялася і ва Усходняй Прусіі і тут, у Памераніі.

— Драпанулі фрыцы,— сказаў малодшы лейтэнант Сінічкін, камандзір узвода пешай разведкі, разглядваючы карту.— Гэта хутчэй за ўсё Грунвальд. Пройдзем вёску і ўзбяромся на курган. Адтуль добры кругагляд.

Грунвальд нічым асаблівым не вызначаўся: крытыя чырвонай чарапіцай дамкі, замкнутыя на манер падковы двары з муравапымі хлявамі і стадоламі. Паўсюдна ў вёсках жыхароў амаль не заставалася: спецыяльныя воінскія каманды гналі перад сабой старых і малых.

На ўсялякі выпадак разведчыкі завіталі ў некалькі двароў. Малюнак знаёмы: рэзрух, расчыненыя насцеж дзверы жылых памяшканняў, вароты хлявоў, напакаваныя рознымі бэбахамі скрынкі, што не ўмясціліся на фуры. Ёсць многа іншага дабра, якое бежанцы не здолелі прыхапіць: у кладоўках і склепах шкляныя банкі са смажанай свінінай, курыным мясам, з рознымі ягадамі і нават цурубуллем лопуху, які нем-

цы марынуюць; у ацэментаваных сховішчах-падвалах засталася бульба, а ў дамах, на верхніх паверхах насыпанае проста на падлогу ляжыць збожжа. Разведчыкам, што пастаянна адрываюцца ад кухні, асабліва клапаціцца пра харч у гэтым краі не выпадае. Усе ходзяць сытыя.

Разведчыкі прайшлі вёску наўсцяж, вярнуліся назад і сталі ўзбірацца на пагорак. Сям-там сярод соснаў стаяць бярэзнікі — покаўкі на іх пачынаюць праклёўвацца першай зелянінай. З таго боку, дзе азярко, даносіцца водгулле глухіх выбухаў.

З пагорка сапраўды выдатны кругагляд. Парослая лесам раўніна перарываецца прагаламі палёў, вёсачкамі, невялічкімі азёрамі, удалечыні відаць буйнейшае паселішча са стромкімі вежамі кірхі.

Да ўзвода прымацаваны сувязіст. Прысеўшы на кукішкі ля каробкі рацыі, ён пачынае звычайную малітву:

— «Рамашка», «Рамашка», я — «Фіялка». Як чуеш? Прыём...

Сінічкін тым часам падзывае да сябе памкамузвода Смірнова і старшага сержанта Ульянку.

— Аглядзіце дом. Дый снедаць пара. Тут, мабыць, жыў нейкі памешчык.

Прозвішча Сінічкіна як нельга лепш пасуе да яго асобы. Ён нізкарослы, шчуплы і вельмі рухавы. Па характару абыходлівы, з разведчыкамі, у якіх часта мяняюцца камандзіры, сышоўся хутка, але ўсё адно надта любіць камандаваць. Нават там, дзе ясна ўсё без ніякага загаду.

Смірноў паблажліва ўсміхнуўся. Ён, як старажыл узвода, носіць на гімнасцёрцы дзве чырвоныя і жоўтую нашыўкі — за лёгкія і цяжкае раненні — у перапынках, калі раніла ці забівала камандзіра, сам камандаваў узводам, але заўсёды яму на змену прысылаюць малодшых лейтэнантаў і часцей за ўсё, як вось гэтага Сінічкіна, адразу з вучылішча.

Ульянка ва ўзводзе выконвае ролю перакладчыка. Ён ніштавата ведае нямецкую мову і з мінулай восені, калі ступілі на нямецкую зямлю, увогуле незаменны чалавек.

— Тут не памешчык жыў,— гаворыць Ульянка, як толькі разведчыкі наблізіліся да пафарбаванага ў жоўты колер будынка з рознымі мезанінчыкамі,

што здаля нагадваў палац.— Вунь шыльда — гэта лясніцтва...

Лясніцтва, між тым, мае шырокі забрукаваны двор, стайню, гараж, іншыя гаспадарчыя службы. Дзверы ўсіх іх, як і ў вёсцы, расчынены насцеж. У гаражы, відаць, стаяла легкавая машына: на макраватым пяску між каменнямі бруку выразна праглядвае след гумавых шын.

— Ляснічы паехаў дакладваць Гітлеру абстаноўку,— жартуе Смірноў.— А мы паглядзім, як ён жыў. Можа, часам галадаў, небарака?

У ніжнім пакоі размяшчалася кантора лясніцтва. Тут стаяць тры сталы, на падлозе ў беспарадку валяюцца паперы, на сцяне пад партрэтам Герынга вісіць старамодны тэлефон з нікеляванымі званочкамі.

— Чаму ў ляснічага Герынг? — пытае Смірноў.

Ульянка ведае чаму: у лясах Усходняй Прусіі яны аднойчы наткнуліся на агароджаны запаведнік, які асабіста належаў Герынгу.

— Герынг у фашыстаў не толькі камандуе авіяцыяй. Ён яшчэ і галоўны ляснічы...

Смірноў прысвіснуў.

Па вузкай вінтавой лесвічцы разведчыкі падняліся на другі паверх. Тут асабістыя пакоі ляснічага: сталовая, гасціная, спальня. Усё некранутае, зіхаціць адмысловай чысцінёй. Мэбля дарагая, мабыць, з арэхавага дрэва і моранага дуба.

Раптам Смірноў усклікнуў:

— Ты паглядзі, якая птушка! Няйначай гітлераўскі ас!..

У гасцінай уся сцяна завешана павялічанымі фотаздымкамі, пастаўленымі пад шкло ў чорныя асадкі: высокі з вітымі пагонамі ваенны чын прышпільвае танкляваму, з вузкім тварам маёру жалезны крыж, гэты ж маёр у рамянях, шлёме стаіць перад самалётам, сядзіць у кабіне, назіраючы за прыборамі; ён разам з такімі, як сам, зняты на ўзлеску, перад замаскаванымі самалётамі. Нарэшце апошні здымак: маёр з жалезным крыжам між пятліцамі, з некалькімі іншымі крыжамі, рэгаліямі на мундзіры стаіць з пустым падцягнутым рукавом фрэнча.

— Бамбіў нашы гарады, сволач! — вылаяўся Смірноў, пагардліва азіраючы астатняе ўбранне пакоя.— Але дайграўся, руку адкусілі...

— Мабыць, гэта сам гаспадар,— выказаў здагадку Ульянка.— Без рукі не наваюеш, і Герынг даў яму месца ляснічага.

— Зараз праверым,— Смірноў падышоў да шафы, ірвануў дзверцы.

Здагадка адразу пацвердзілася. У шафе побач з касцюмам, паліто вісіць мундзір, той самы, што і на здымку,— з падшытым правым рукавом. І ўвогуле ні жаночай, ні дзіцячай вопраткі няма, акрамя цывільнага касцюма, паліто, скроеных, мабыць, на адну мерку. Яшчэ капялюш з жураўліным пяром ляжыць — такія носяць ляснічыя. Маёр, відаць, халасцяк ці, можа, сям'я жыве ў якім-небудзь іншым месцы.

Смірноў адразу страціў цікавасць да пакояў ляснічага.

— Пашуруй тут, можа, дакументы знойдзеш,— сказаў ён.— Я спушчуся ніжэй. Не можа быць, каб у аса не было далікатных трункаў.

Ульянка перайшоў у гасцінную, высунуў шуфлядку стала. На вочы яму трапілася кардонная скрыначка, ён адчыніў яе і ўбачыў кучку сярэбраных манет — савецкіх рублёў і паўрублёвікаў чаканкі тысяча дзевяцьсот дваццаць чацвёртага года. Адзін толькі раз бацька падараваў Ульянку паўрублёвік, і ён панасіў яго ў кішэні дзень ці два, а далей трымаць не хапіла цярпення — купіў за грошы на кірмашы тры яблыкі. А рубля ніколі нават не бачыў — яны былі выпушчаны ў той год, калі ён толькі нарадзіўся, і да таго часу, як падрос, разышліся. Фашыст, аднак, недзе на іх напароўся. Збіраў, відаць, серабро, каштоўныя рэчы, разбагацець разлічваў.

Ульянка стаў уважліва разглядаць рубель. На пярэднім баку герб, надпіс «Пролетарии всех стран, соединяйтесь!». На другім баку малюнак: стаяць, абняўшыся, селянін і рабочы, удалечыні вымалёўваюцца абрысы нейкага завода з высокімі трубамі, а над усім гэтым узыходзіць сонца. Па каёмцы яшчэ выгравіраваны словы і лічбы: «Чистого серебра 12 грамм».

Пагаліўся фашыст на серабро. Нават не спалохаўся надпісу — закліку да пралетарыяў аб'яднацца.

Спусціўшыся ўніз, выбраўшыся з памяшкання на двор, Смірнова Ульянка не знайшоў — той, відаць, рушыў да разведчыкаў. З лесу даносіліся галасы і смех —

сябры снедалі. Есці Ульянка не хацеў, адышоўшыся ад двара лясніцтва, прылёг між соснамі на верас.

І адразу перад вачамі ўзнікла на дзіва выразнае відовішча: ён ляжыць не ў нямецкім лесе, а ў сваім — беларускім, палескім — там такія ж, як тут, гонкія сосны, гэтак жа цвіце верас, застаючыся зялёным, некранутым, з крапінкамі леташняга цвету, да самай вясны.

Восенню сорак першага года, калі фашысты асталяваліся ў яго гарадку, Ульянка ад суму сыходзіў у лес і аднойчы на верасе ўбачыў чырвоныя лісткі. Іх савецкі лётчык кінуў для нямецкіх салдат. Ульянка і тады трохі ведаў нямецкую мову, з дапамогай слоўніка пераклаў тэкст.

У лістоўцы гаварылася, што нямецкія рабочыя і сяляне галадаюць, а ў самой Германіі нястача бензіну, вугалю, дні яе злічаны.

Ульянка нават усміхнуўся, успомніўшы пра тую даўнюю лістоўку. Чатыры гады спатрэбілася, рэкі крыві праліліся — перш чым савецкае войска дайшло да Германіі і ўбачыла, як тут усё ёсць. Не, з голаду фашысты, відаць, не памерлі б, склепы іхніх будынкаў і цяпер не такія пустыя.

Тады, калі савецкі лётчык кідаў лістоўкі, немцы стаялі пад Масквой, цяпер нашы акружаюць Берлін. Вайна, па ўсім відаць, хутка скончыцца, і калі ён, Ульянка, застанецца жывы, болей за ўсё на свеце ён жадае пахадзіць па родным лесе, паслухаць пошум соснаў, спевы птушак.

*1975*

# ІВАН ДЫ МАР'Я

## I

Першымі ў сяле прачынаюцца не пеўні, якія гарланяць з другой палавіны ночы, не сабакі, што, бывае, брэшуць без дай прычыны ўсю ноч, а птушкі. Яшчэ не ўзышло сонца, яшчэ белая, мяккая празрыстасць выганяе апошнія паўзмрокі, што хаваюцца па кутах панадворку, а на вішні, што пры самай хаце, перад вокнамі на вуліцу, усчынаюць гамонку вераб'і. Вішня старая, разгалістая, абымшэлая, ягад на ёй даўно няма, так што няма вераб'ям пажытку, і яны, мабыць, проста радуюцца дню і святлу. Потым прылятае варона, садзіцца на вільчык хаты і доўга, аднастайна каркае. Падзёршы, прачысціўшы горла, варона знікае, а на змену ёй прыбываюць сарокі. Яны прымошчваюцца на штыкетніку, скачуць з калка на калок, трашчаць, мітусяцца і, нарэшце, пералятаюць на суседні двор.

Мар'я ўсоўвае ногі ў старыя, разлезлыя ступакі, бярэ серп, ускідвае на плячо вялікі крапіўны мех, на якім чорнай фарбай прастаўлены нейкія казённыя лічбіны, і, прымкнуўшы дзверы, агародам шыбуе на саўгаснае бульбянішча. Рана яшчэ, на слупе перад белым двухпавярховым будынкам школы маўчыць рэпрадуктар. Ён загаворыць тады, калі Мар'я з поўным мехам зелля паспее вярнуцца дадому.

Мурава на сцежцы ў буйнай серабрыстай расе. Учора Мар'я хадзіла па траву ў пасадкі да чыгункі, на мокры абутак наліпла пылу, пяску, і цяпер ёй прыемна, што раса змывае бруд, бо нават старыя, з патрэсканай шэрай скурай ступакі маюць выгляд прывабны, калі чыстыя.

Мар'я прысадзістая, дзябёлая, з выразнымі, нават суровымі рысамі твару. Ёй даўно мінула семдзесят,

але яна яшчэ шпарка ходзіць і рэдка хварэе. Дзяцей у яе няма, з родных — брат Максім, яго хата цераз агарод, а пры хаце хлеў, у якім стаіць Мар'іна карова. Дзеля каровы Мар'я і носіць мяхамі траву, сушыць яе, запасячы скаціне корм на зіму.

Вясной мачыла, але ўвесь апошні месяц сушыць. Таму нават зелле не хоча расці. Мар'я абжынае межы, ірве малачай і свірэпу на разорах, а калі трава забівае пасеў — ячмень ці авёс,— яна ўсадзіць серп і туды. Гэтую справу можна разглядаць як крымінальную, бо пасеў усё-такі саўгасны, значыць, саўгасная і трава, але Бандзючыха — такое Мар'іна прозвішча па мужыку — даўно нічога і нікога не баіцца.

Травы найбольш па кустоўі, па лясных узмежках, просеках. Але туды Бандзючысе не прабіцца, там дзейнічаюць мужчыны. У сяле нямала людзей, якія ў саўгасе не робяць, але кароў дзержаць. Навыперадкі, дзе толькі можна, як брытвай, выгольваюць яны ўзлобкі, узболаткі, лагчынкі. З балот, сенажацяў калгас з саўгасам парабілі палі, там дзе некалі малыя зімой коўзаліся па лёдзе, цяпер сеюць жыта, буракі, так што накасіць аднаасобнай карове сена на зіму — нялёгкае дзела.

Некаторыя сена так і не накошваюць — прыходзіцца купляць,— а Мар'я нажынае. Асаблівай мудрасці тут няма: увесь цёплы час, пакуль свеціць сонца і расце трава, трэба прывалакчы мех зелля зранку і яшчэ мех вечарам. Мар'я нават думае, што яе штодзённыя паходы за травой прыбаўляюць здароўя і працягваюць гады. Маладыя развіваюць сілу, бегаючы і скачучы, ганяючы па школьным двары мяч, а яна, старая,— носячы мяхамі траву.

Выжынаючы на росным бульбянішчы зелле, Мар'я бадай што напакавала мех, калі да яе падышоў Харытон, які цяпер за палявога вартаўніка. Ён такі ж прысадзісты, як і яна, па гадах — гады на два маладзей, але з выгляду нават старэйшы. З зараслага пасівелым шчаціннем Харытонавага твару выглядае чырвона-сіні, круглы, як бульбіна, нос.

— Ты сёння тут жнеш,— гаворыць Харытон.— Пайшла б лепей пад маяк, там болей бярозкі.

— Бярозка свінням добра. А я карове сушу.

— Карове пойдзе ўсякая палявая трава. Тая, што расце на гнаі. Не пустая асака ўсё-такі...

— Якi тут у вас гной,— пярэчыць Мар'я.— Пасыплеце парашком, ды i на тым.

— А бульба ж расце добрая. На агародах такой няма.

Тое, што гаворыць Харытон, праўда. Саўгасная бульба адменная. Клубнi вялiкiя: па гусiнаму яйку. Пры варцы рассыпаецца, прыемная на смак. Мар'я сама не раз пра гэта думала, але так i не даўмелася прычыны. Даглядаюць жа бульбу не надта: машынай пасадзяць, плугам абгоняць. Расце ў траве. Але цяпер, каб запярэчыць Харытону, яна сказала:

— Што ты раўняеш з агародам? На iм з году ў год толькi бульба i бульба. Як шчэ i так расце?..

— Правiльна,— згадзiўся Харытон.— Аграгэхнiкi на агародах няма. Няма перамены клiмату.

«Сам ты клiмат,— падумала Мар'я.— Стаiць як слуп i старой бабе глузды забiвае. Знайшоўся аграном. Цi даўно ў пажарнай бакi адлежваў? Прагналi на пенсiю, дык убiўся ў вартаўнiкi. Не хочаш, каб твая сухарэбрая мяшкi з травой, як я, цягала...»

Услых Мар'я сказала:

— Цi ў твае гады, Харытон, валачыцца ў такую рань па полi? Дзяцей пагадаваў, капейка на хлеб ёсць. Паспаў бы лепей. Поля нiхто не пацягне.

— Пад старасць не спiцца, Мар'я. Учора звечара пачаў узмежкi абкошваць, ды якраз дырэктар наехаў. То я i касу схаваў. Няёмка пры iм касiць.

Цяпер Мар'я пашкадавала Харытона. За ўвесь доўгi век, што яна яго ведае, быў ён перад ёй праўдзiвы, шчыры, намераў не хаваў, не сказаў грубага слова. У маладыя гады нават трохi заляцаўся да яе.

Пазней, калi яна асталася без мужыка, а ў яго выраслi i разляцелiся па свеце тры сыны, ён, падпiўшы, не раз прызнаваўся, што вельмi хацеў узяць яе замуж, але яна на гэта толькi махала рукой. I цяпер нiколечкi не шкадуе. Чаму ў жыццi так?

— То iдзi пакасi па расе, Харытонка,— сказала Мар'я, падняла на плечы мех i пайшла. Па дарозе яна зноў думала пра Харытона. Ён пакорлiвы, рахманы, як цяля, а ёй такiя мужчыны нiколi не падабалiся. Затое жонка трапiлася — нiбы наперакор яго характару. Сапраўдная ведзьма. Крыклiвая, языкатая; калi была маладзейшая, перагрызлася з усiмi суседкамi. Праўда, пад старасць ацiхла.

Мар'я, прынёсшы траву, разаслала яе на братавым двары, а ўчарашнюю, прывялую, але яшчэ не зусім сухую ўскінула на драбінкі пры хляве. Падаіла і выгнала на пашу карову.

Дома, працадзіўшы малако, наліла аж пяць збанкоў. Па маленькім — сабе і брату Максіму, а тры большыя, пузаценькія — на продаж. Малако ў яе бяруць бухгалтарка са школы і дзве настаўніцы, у якіх сем'і, дзеці, а кароў няма.

## II

Мар'я разнясла малако і рушыла на агарод. Сонца пачынае прыпякаць, дзень, відаць, будзе зноў гарачы. Клопату Мар'і хапае: акрамя каровы, якая на поўным яе ўтрыманні, ёсць яшчэ парсючок, якога яна гадуе на пару з братам. Па вузкім дворыку расхаджваюць тры курыцы і цыглясты вогненна-чырвоны певень, надзвычай галасісты.

Дзеля голасу яна, бадай, і трымае яго, бо карміць гэтага абібока з-за трох квактух — залішняя раскоша. Кавалераў хапае ў суседніх дварах. Ноччу, калі Мар'я не спіць, ёй прыемна чуць звонкі, нейкі надрыўна-ўрачысты голас свайго певуна, які першы агалошвае наваколле.

Мар'я поле грады, акопвае на агародзе бульбу, выбіраючы лебяду і іншае зелле, сячэ яго ў драўляным карытцы, палівае трохі ўчарашнім кіслым малаком і нясе парсючку. Усё жывое любіць догляд і ласку. Парсючок беленькі, чысценькі, ён яшчэ здалёк пазнае крокі гаспадыні і вішчыць так, нібы цэлы век не еў. Да яды надзвычай падкі: хапае — аж вушы трасуцца.

За жыццё, акрамя як на ўласным двары, Бандзючыха не працавала нідзе, да вайны жыла за сваім Іванам як у бога за пазухай, пасля вайны не было ўжо сілы, хоць сяды-тады, асабліва ў касавіцу ці жніўную пару, пасабляла калгасу, які пазней зрабіўся саўгасам. Аднаму чалавеку трэба няшмат: пакуль Мар'я мела трохі здароўя, яна нават думкі не дапускала, што не здолее пражыць на свеце. Але ногі знасіліся, спіна не гнецца, і пасля ношак з травою ў яе ўсю ноч баляць рукі. Карову гэтую зіму яшчэ пратрымае, але адчувае, што на далейшае не хопіць змогі. Абыдзецца яна тымі трыццаццю рублямі пенсіі, што палучае.

У самую гарачыню, калі разамлелае паветра, здаецца, застыла ў сваёй нерухомасці, Мар'я кідае поліва, ідзе ў хату. Баліць галава, і ў вачах пачынаюць скакаць чырвоныя пісягі. З ёй у апошнія гады часта так робіцца. У скронях цісне, стукае, нібы хтосьці б'е па іх жалезнымі малаткамі, і нейкія лічаныя імгненні аддзяляюць у такі час Мар'ю ад поўнага беспамяцця. Перш чым пераступіць парог, яна, аднак, знаходзіць у сабе сілу зачыніць аканіцы. У халадку яна адляжыцца, і боль пройдзе.

Мар'я зняла ступакі, прылягла на ложак. Праз шчыліну ў аканіцы прабіваецца косы сонечны праменьчык, звініць у паўзмроку патрывожаная муха. Нечакана для сябе Мар'я засынае, бачыць сябе ў сне разам з чубатым Хведзькам, з якім некуды едзе ў вагоне. Яна ведае, што білета Хведзька не купіў, па гэтай прычыне непакоіцца, нервуецца, а ён, падкручваючы бялявы вус, сядзіць насупраць яе і бесклапотна ўхмыляецца.

Ад унутранага неспакою Мар'я прачынаецца. Расплюшчыўшы вочы, ляжыць і думае пра свой сон. Дзіўная рэч — цяпер, калі яна дацягнула да глыбокай старасці, у яе сны прыходзіць не Іван, з якім пражыла дваццаць гадоў, а Хведзька, што мільгнуў у маладосці на нейкія тры месяцы і прынёс толькі згрызоты і пакуты...

Мар'я паднялася, выйшла на двор. Спёка апала, хоць досыць яшчэ душна і млосна. Відаць, збіраецца на дождж. Дождж вельмі патрэбен: высокі бульбоўнік, ледзь паспеўшы адцвісці, пачынае жаўцець, дый колас сама што наліваецца.

На вуліцы, падымаючы густы пыл, праносяцца грузавікі. На школьным двары загарэлыя да чарнаты хлопцы ў адных трусах ганяюць мяч. У мяч гэты, галёкаючы, дзеручы куплены бацькамі абутак, яны бухаюць з дня ў дзень, і мітуслівая, аднастайная забава ім ніколькі не надакучае. Мар'я з нездавальненнем думае пра тое, што свет настаў другі і чалавек цяпер смалку стараецца як бы пабольш пагуляць і павесяліцца. Па былым часе такія вот байбусы пасвілі б кароў, памагалі бацькам, а гэтыя нават курэй з град выгнаць лянуюцца.

Зайшоўшы ў хату, Мар'я выпівае кубак кіслага малака і зноў бярэ серп і мех. Дзверы прымыкае на за-

мок, а ключ кладзе пад ганак — на той выпадак, калі вернецца з вёскі Валя. Валя — кватарантка, пусціла дзяўчыну да сябе Мар'я год назад, калі памёр дзед Трахімовіч і калі неяк па-асабліваму адчувала яна адзіноту і пустэчу ў хаце.

Цяпер яна пойдзе ў пасадкі. У хуткім часе па вайне каля чыгункі насадзілі маладых клёнікаў, бярозак, таполяў і неяк зусім неўпрыкмет разрасліся яны, як лес. Імклівa бяжыць час — не паспееш азірнуцца, а ўжо жыццё пражыта. У пасадках па вечарах гуляе моладзь, трава змята, збэрсана, але сяк-так мех можна назбіраць.

Хоць між дрэў ляжыць цень, але задуха тут не меншая, чым на гале. Можа таму, што палоска лесу вузенькая, крокаў на дваццаць, яна ўся наскрозь прагравецца сонцам. Згінаючыся, падразаючы сярпом жмені кволай, звялай травы, Мар'я зноў адчувае, што страчвае над сабой уладу. Баліць ужо не толькі галава — па ўсім целе разліваецца цяжкая, алавяная знямога. «Будзе дождж,— думае Мар'я,— таму так парыць. Траву, тую, што нажала з раніцы, трэба раскідаць на вышках у Максіма. Іначай з яе атрымаецца гной...»

Не нажаўшы нават паўмеха, Мар'я знямажана кладзецца на дол. Здранцвелай рукой паспявае падцягнуць пад галаву мех і адразу як бы правальваецца ў цёмную бездань. Колькі ляжыць на зямлі, не памятае. Як скрозь цяжкі сон чуе грукат на рэйках, гудок цягніка, але праз гадзіну ці дзве, калі між дрэў пачынае патыхаць вячэрняй прахаладай, сілы пакрысе вяртаюцца. Мар'я ўстае, папраўляе валасы, атрасае спадніцу і кофту ад леташняга лісця. З напалавіну пустым мехам ісці дадому сорамна, і яна, пакуль у ляску не сцямнела, стараецца нагнаць упушчанае. Цяпер, пад вечар, ёй проста шанцуе: наткнулася на некрануты лапік густой, сакавітай травы. Тут і назаўтра яшчэ хопіць. Мар'я жне, напакоўвае мех да самага верху...

III

У хаце Мар'я застае кватарантку, якая вярнулася з вёскі. Дзверкі шафы расчынены насцеж, а ўсё, што ў ёй было, раскідана як папала па пакоі. На ложку, на спінках крэслаў, нават на швейнай машыне ляжаць і вісяць сукенкі, блузкі, на стале разаслана коўдрачка:

дзеўчанё, відаць, нядаўна прасавала некаторыя са сваіх убораў. Завесіўшы вокны, уключыўшы, хоць яшчэ рана, святло, кватарантка завіхаецца перад люстэркам.

Мар'я толькі павіталася і рушыла зноў з хаты — ладкаваць траву, даіць карову. Ад яе вока не схавалася ўзрушанасць кватаранткі. За свой доўгі век яна наглядзелася ўсякага і ведае, што ў маладую пару трывожыць такіх, як гэтая яе Валя. Дзяўчыне дзевятнаццаць гадоў, і сама думаць пра любошчы. Як пра кватарантку Мар'я пра яе нічога кепскага сказаць не можа. Акуратная, нелянівая — з мыццём падлогі і ўсім астатнім, што стварае ў хаце ўтульнасць, гаспадыня клопату не мае. Год назад дзеўчанё скончыла школу, спрабавала прабіцца ў інстытут, але нешта там паламалася, дык яна дадому, у вёску, вяртацца не захацела, зачапілася на службу тут, у мястэчку. Цяпер многія так робяць.

За жалаванне, якое палучае ў сваёй канторы, кватарантка купляе туфлі, шые сукенкі, а харчам забяспечвае бацька. Кожнае суботы яна ездзіць аўтобусам у вёску, прывозячы адтуль у моцнай капронавай сетачцы глячкі з маслам, кавалкі старога ёлкага сала і іншыя прыпасы.

На двары братава жонка Аксіння мые збанок.

— Дождж, мабыць, будзе,— гаворыць яна.— Ты хіба не ведала, што памерла Сёмчыха? Яшчэ ўчора памерла, а сёння хавалі. Народу, праўда, мала было. Самая спякота...

«Без цябе не абыдуцца,— непрыхільна думае Мар'я пра Аксінню.— Ні хаўтуры, ні вяселле. Усюды патрапіш. Абы дзе запахла чаркай. Лахта...»

— Усе памром,— сказала яна ўслых.— А Сёмчыха сваё аджыла. Бог і так позна прыбраў...

Расчыніўшы хлеў, Мар'я бярэ вілы, ускідвае прасохлую траву на вышкі. Свежую вывальвае з мяшка пад паветкай і патроху растрасае на доле. Затым, зняўшы з калка бляшанае вядро, доіць карову. Рагуля, як заўсёды, стаіць спакойна, чакае, нібы ведаючы, што, аддаўшы гаспадыні належнае, яна на кароткую летнюю ноч атрымае спакой, будзе пераждоўваць жвачку, уздыхаць і сніць сваё рабенькае, на кволых ножках цялё, якое яшчэ нядаўна аблізвала сваім шурпатым языком. Парсючок таксама голасу не падае — Аксіння, відаць, яго накарміла.

Пра курэй клопату няма — за дзень назбіраюцца і ўжо даўно на седале са сваім цыглястым пеўнем.

Аксіння, між тым, у хату не ідзе, стаіць са збанком у руках, чакае. У Мар'і ўзнікае падазрэнне. Братавай верыць не вельмі выпадае, і зусім можа быць, што збанок з малаком зараз жа патарабаніць да каго-небудзь з суседзяў.

— Малако ў хату прынясу,— кідае Мар'я Аксінні.— Не бойся, вадой не разбаўлю і чужым не аддам...

Максімаву і Мар'іну дамоўкі раздзяляе толькі засеяны бульбай агарод, і з таго часу, як Іван, узяўшы Мар'ю замуж, паставіў ёй хату, зімой і летам ляжыць на гэтым агародзе сцежка. Іван быў майстар на ўсе рукі — і швец, і жнец, і на дудцы грэц,— але, бегаючы па заработках, нават сенечак да хаты не прыбудаваў. Усё жыццё карыстаецца Мар'я братавым хлевам, калодзежам, паветкай, па некалькі разоў на дзень ходзячы да яго ў двор. А брат — калека. Яшчэ з першай германскай вайны прыйшоў з драўлянай нагою, да старасці бедаваў бабылём, а потым не вытрымаў, пусціў у хату Аксінню.

А кватарантка яшчэ ў хаце. Выбрала сабе чорную сукенку, якая ёй да твару. Дзеўчанё малое, як мыш, але досыць зграбнае. Толькі характар кватаранткі Мар'я не можа да канца разгадаць. На першы погляд, ціхмяная, пакорлівая, слова насуперак не скажа, але сваім жаночым вокам Мар'я, здаецца, бачыць глыбей. Свавольная, упартая, мабыць, гэта Валя. Употай любуецца сабой, лічыць сябе бог ведае якой красуняй. Мае сталага кавалера, ладнага хлопца, які там, на вёсцы, настаўнікам. Адводу яму не дае, але некалькі разоў за гэты год дадому нават начаваць не прыходзіла. Маўляў, на імянінах была, на дзяжурстве. Можа і так...

Працэджваючы малако, разліваючы яго па збанках, Мар'я адчувае, што кватарантка хоча ёй нешта сказаць. Нарэшце чуе яе голас:

— Цёця Мар'я, я ад вас, мабыць, выберуся. Замуж пайду...

Мар'я зірнула на Валю і нават пашкадавала яе. Стаіць ціхая, задуменная, ні на твары, ні ў голасе ніякай радасці.

— З богам, дзевачка. За каго — можа, скажаш?

— Вы яго ведаеце. Ен скончыў інстытут, і яго дырэктарам ставяць.

Мар'я нават здрыганулася. Настаўніка яна сапраўды ведае, як ведае і тое, што дзяўчына яго не любіць,— ёй, старой бабе, бачна гэта па многіх, вельмі красамоўных прыкметах.

— Ты ж яшчэ маладая. Хіба хто гоніць?

— Чаго тут дачакаюся? А ён хоча, каб цяпер.

Мар'я змоўкла. Старая, як свет стаіць, песня. Але раней дзеўка ішла за нямілага, бо другога ратунку не бачыла. Само гора гнала. Не будзеш век сядзець на бацькавай шыі. А цяпер нават такое птушаня, як гэтая Валя, можа на хлеб зарабіць. Хоць і ў яе бацькі, здаецца, яшчэ трое седуноў...

Кватарантка пайшла. Услед за ёй рушыла Мар'я. Занясла збанок з малаком Максіму, а затым, вярнуўшыся, зрабіла яшчэ ходку — да настаўніц. Ные спіна, паясніца, сон усё адно не возьме. Мар'я прысела на лавачцы каля хаты. Збіраецца на навальніцу. Зямля дыхае назапашаным за дзень цяплом, душна, млосна, наваколле як бы анямела. Дрэвы нават лістом не варухнуць. На дварэ цямней звычайнага, неба наўсцяж абложана хмарамі: па краях іх паласуюць сухія, без грымот, маланкі.

Навальніцы Мар'я баіцца. Гэта пачалося яшчэ з малых год, і яна нічога не можа з сабой зрабіць. Цяпер, пад старасць, непагадзь палохае яшчэ болей. На агародзе, недалёка ад хаты, паставілі два слупы, між імі на перакладзіне прымацавана жалезная скрынка — ёю нібыта рэгулююць электрыку, і Мар'і здаецца, што пярун абавязкова ўдарыць у слупы, а затым па дратах ускочыць у хату. Пайшла б да Максіма, ды няёмка. Цяпер яна шкадуе, што няласкава абышлася з Аксіннян: калі прынесла малако, тая сядзела надзьмутая і нават словам не азвалася.

Стала зусім цёмна, і Мар'я пайшла ў хату. Зачыніла юшку, жарало печы заставіла засланкай. Лягла на ложак і глядзела, як скачуць у акне зыркія водбліскі маланак. Думала пра Сёмчыху, якую сёння пахавалі. Пражыла баба дзевяноста гадоў. Нагадавала шасцёра сыноў і дачок, а памірала адна. Ледзь не ўсе дзеці, апярэдзіўшы матку, пайшлі на той свет за яе раней.

Яна пачала патрошку драмаць, калі да яшчэ чуткага яе слыху даняслісі прыглушаныя галасы. Дзяво-

чы, Валін, яна пазнала адразу, а другі, басавіты, мужчынскі, разгадаць не магла. Яна падумала спярша, што кватарантка спаткала жаніха, які, можа, спыніўся дзе-небудзь у знаёмых або ў гасцініцы, але зараз жа адкінула гэту недарэчную думку. Той, Адам, у хату завітваў некалькі разоў — калі ехаў у горад на вучобу і калі вяртаўся назад. Пакідаў чамадан, аднойчы, калі кватаранткі не было дома, паўдня прасядзеў у хаце, ведучы з ёй, гаспадыняй, нетаропкую размову.

Нечакана Мар'ю абпаліла здагадка, што хлопца, да якога хінецца, кватарантка мае тут, у мястэчку. Толькі, мабыць, непярэліўкі. Не хоча ці не можа ён яе браць, калі ідзе за другога.

Прыйшло раптам зняважлівае пачуццё да таго вясковага цюхцяя. Сляпы ён, нічога не бачыць? Свет клінам сышоўся на гэтай Валі? Думае, проста ўсё, узяў навуку, то возьме шчасце. Не, мой галубок. Не з цяперашнімі дзеўкамі...

У акне па-ранейшаму мігаюць частыя бліскаўкі. Размова там, на лавачцы, узбуджаная, і гаворыць найбольш кватарантка — сыпле як гарохам. Толькі раптам Мар'і здалося, што голас у дзяўчыны нейкі надрыўны, як бы з плачам. Так і ёсць. Яна нешта скрозь слёзы даводзіць, скардзіцца, а ён маўчыць. Добры, мабыць, цюцька: нашкодзіў — і ў кусты. Толькі нашто яна з ім валаводзіцца? Плюнула б у вочы і думаць забыла.

Мар'і робіцца шкада кватаранткі. Яна, старая, таксама вінавата. Не навучыла, не перасцерагла. Дзяўчо маладое, зялёнае, што яно ў тым сяле бачыла? А тут надышла пара, усадзіла вочы ў нейкага ветрагона, а цяпер пакутуе.

Перад Мар'яй, як днём у сне, выплыў раптам зноў бялявы, з сінімі, як васількі, вачамі твар Хведзькі. Не, відаць, ад таго, што схавана ў сабе самой, не ўцячэш, нікуды не дзенешся. Хіба не ведала яна, тады яшчэ дзеўка, што любоў з салдатам, ды яшчэ ў вайну, нічога добрага не прынясе, скончыцца пакутай? Ведала, але гнала прэч усялякія думкі. І цяпер, пражыўшы жыццё, сябе за былое не дакарае.

Як сон прамільгнулі тыя тры месяцы. Столькі прастаялі казакі ў мястэчку. Нарыхтоўвалі сена, цюкавалі і грузілі яго ў вагоны, а з першымі асеннімі дажджамі выехалі. Ноч у ноч лятала яна да Хведзькі. Казакі

размяшчаліся ў цагляным доме за станцыяй — ён і цяпер яшчэ стаіць, гэты дом,— і паблізу, у таполевых зарасніках, яны спатыкаліся. Маці хавала чаравікі, суkenку, сароміла, нават біла, суседкі пляткарылі адкрыта, але яна не глядзела ні на што. Хведзька быў даражэй за жыццё...

Ён быў сумленны і шчыры. Каб не склаў галавы ў праклятай Прусіі, прыехаў бы па яе. Тады, калі памерла ўжо яе дзяўчынка, атрымала Мар'я ліст з далёкай кубанскай станіцы. Пісала Хведзькава маці, звала жыць да сябе. Але хіба паедзеш?..

Усчаўся раптам вецер, такі моцны, нечаканы, што гучна ляснула, зачыніўшыся, аканіца ў пярэднім пакоі.

Вецер ірве, вые, скавыча — штосьці затрашчала на даху, дзынкнула разбітае шкло, але ўсе гэтыя гукі патанаюць у напорным, няўрымслівым шаленстве стыхіі. Без маланак і грымот лінуў дождж — нібы там, на небе, утварылася дзірка і з яе хлынула на зямлю цэлая рака.

Дождж палошча сцены хаты, вецер не аціхае, але Мар'і лягчэй: няма, дзякуй богу, грому, ды і пачувае сябе яна цяпер лепей. Днём парыла, душыла, і ў яе старых жылах, мабыць, проста супынялася кроў. Дождж трэба, зямля засмягла ад гарачыні, у некаторых месцах нават патрэскалася, але такі, як цяпер, ён наробіць шкоды. Колас сама наліваецца, сцябліна крохкая, і жыта такі буран з ліўнем паваліць, пасцеле на доле. Прыб'е бульбу, але бульба адыдзе, а жыта не падымецца.

Мар'я ўстала, падышла да акна. На дварэ цёмна, хоць вока выкалі, і па-ранейшаму скавыча і хлюпоча. Такое ўражанне, нібы на дварэ суцэльнае мора. Яно, мабыць, сапраўды так, бо да слыху даносіцца толькі дзікі свіст ветру і плёскат вады.

Мар'я зноў лягла і пачала ўжо засынаць, калі раптам уздрыгнула ад таго, што ў пярэднім пакоі, які займае кватарантка, нешта выразна і гучна грукнула. Дзверы ў пакой зачынены, і Мар'я адчула, што кватарантка ўжо ў хаце, і не адна, а з гэтым сваім кавалерам. Толькі калі яны ўвайшлі? Мабыць, тады, калі бура толькі пачыналася, і з-за свісту, трэску нічога не было чуваць. Мокнуць не захацелі, а схавацца недзе.

Са столі між тым пачынае капаць. Некалькі кро-

пель трапляе на шыю, і ад гэтага асабліва непрыемна. Мар'я адсоўвае ложак падалей ад сцяны. Дах у двух ці трох месцах прагніў, трэба перакрываць ці хоць залатаць дзіркі, а мужчынскай рукі няма. Максім на печ не ўзлезе, не тое, што на дах...

Прападзе дзеўка, думае Мар'я пра кватарантку. Усё жыццё будзе зайздросціць і заляцацца да чужых мужыкоў. А свой дазнаецца і кіне, калі ёсць характар...

Вецер то на хвіліну аціхае, то рве з новай сілай. Дождж як бы стаў трохі драбнейшы.

Яна хоча заснуць, але сон не ідзе. Другім разам, каб не кватарантка са сваім замужжам, яна гэтакай непагоддзю ў ахвоту выспалася б.

«Ты сама была такая,— прыходзіць думка.— Хто табе быў Хведзька, дзеля якога ты не пашкадавала дзявоцтва, не паглядзела, як будзеш жыць далей? Любіла яго, а любоў — як шаленства, як напасць. Хіба можна, калі яна прыходзіць, што-небудзь зрабіць?»

Але гэтае самаабвінавачанне Мар'я тут жа адкідае. Хведзьку яна палюбіла, калі ёй было семнаццаць гадоў, а замуж за Івана пайшла, калі бура ў сэрцы ўціхла, гадоў праз пяць — Іван тады якраз вярнуўся з германскага палону, а Хведзькі не было жывога. Не, яна б так не змагла — любіць аднаго, а замуж ісці за другога.

Мар'я слухае шум дажджу і думае. Яна і Івана палюбіла, бо нечым падобен быў да Хведзькі. Не тварам, не паставай, а характарам. Хведзька — рослы, тонкі ў стане і ладны ў плячах, як маладая таполя, а Іван — верабей. Але абое былі як агонь, хваты-мужчыны. У Івана ў руках было сем рамёстваў: хочаш печ — злепіць, хочаш — рамы выштукуе. Але сваёй хаты як след так і не агледзеў. Усе дваццаць гадоў, якія з ім пражыла Мар'я, не мог ёй дараваць Хведзьку.

Напачатку многа піў, а яна чакала яго з пагулянак і плакала, але потым — як прасвятленне на яе найшло, стала хадзіць разам з ім і піла чарка ў чарку. Ён спяваў, і яна спявала. Іван нават паважаць яе за гэта стаў, і частыя выпіўкі спыніліся. Бралі па шклянцы толькі па святах. Іван кроку без яе ступіць не мог, але ў сельсавет, каб запісацца, прызнаць законнай жонкай, так і не звадзіў. Атрымлівала б цяпер пенсію за яго, а не за гэтага дзеда...

Эх, Іван, Іван!.. Самага галоўнага ты так і не разгадаў. Любіла цябе шчыра, а за Хведзьку крыўдаваць было не варта. Хіба ў бабскай душы адна толькі песня? Хіба не расказала табе, як на споведзі, што і як было, не глядзела цябе, не чакала з работы, не старалася дагадзіць у самых малюткіх дробязях?..

Не, усё адно Івана яна не забудзе і ганьбы не дасць. Пражылі як людзі. Вялікі быў, слаўны чалавек, хоць хілы, слабы здароўем. За ўсё жыццё ні разу не папракнуў капейкай, бярог яе, Мар'ю, лічыў за гаспадыню. А што гордасці сваёй адолець не мог, другая справа. Такі ў чалавека характар...

Даўно, калі была яшчэ маладая, яна згадвала, што пахаваюць яе разам з Іванам. Зробяць жалезную агароджу, надпісы: Іван ды Мар'я... Толькі ён быў законным яе мужам. А сталася так, што яна нават магілы яго не ведае...

Вецер бадай што сціх, а дождж сячэ. З-за дашчанай перагародкі, якой надвая падзелена хата, выразна даносяцца прыглушаныя галасы. Кавалер стараецца гаварыць ціха, але ўсё роўна, як у бубен б'е. Што ён той дурніцы даказвае? Плюнула б у вочы, развязалася з паганцам. Дзеўка замуж ідзе, а ён каля яе вісне. Хоць і дзеўка добрая. Другая б ад сораму згарэла, а гэтая ў хату прывяла. Ні сумлення, ні чэсці...

Ты сама пакрывіла сумленнем, дакарае Мар'ю нейкі ўнутраны голас. Дзеда Трахімовіча ў хату ўзяла, пайшла з ім у загс, бо ведала, што ён чуць чаўрае, а пасля яго смерці пенсію палучыш. Хіба гэта чэсна? Нават на яго прозвішча перапісалася...

І зноў уся Мар'іна істота пратэстуе супроць такога наракання. Дзеда яна прыняла, глядзела, абмывала і абшывала, і толькі дзякуючы ёй ён пражыў яшчэ тры гады. Але хіба яна вінавата, што першая вайна ўзяла ў яе Хведзьку, а другая — Івана? Хіба Іван, якога мабілізавалі не ў войска нават, а ў трудармію, думаў, што загіне? Дрэнна бабам, якія пад старасць асталіся без мужыкоў і без дзяцей. Кідае іх, адзінокіх, як трэскі на хвалях...

Непрыкметна для сябе Мар'я заснула, а калі прачнулася, то нават здзівілася незвычайнай цішыні. Кватаранткі няма — знікла разам з кавалерам і чамаданамі. На стале ляжыць новенькая дзесятка. Мар'я

ўсміхнулася: за кватэру дзеўчанё плаціла тыдні два назад... Што ж, жыві, мілая, як хочаш...

На дварэ як новы свет. Узыходзіць сонца, і аж пераліваюцца залатымі бляскамі вадзяныя кропелькі на лісці старой вішні. Бульба, трава трохі прыбіты, але зеляніна проста буяе. На вуліцы — лужыны, у канаве, у разорах між градаў — поўна вады. На сцежцы каля хаты Мар'я ўбачыла тры распластаныя, прыбітыя дажджом да зямлі цельцы вераб'ёў.

— Мілыя вы мае,— сказала яна ўголас.— Жаўтадзюбыя подлеткі.

Яна падумала аб тым, што такія вось, з шалёным ветрам і дажджом, ночы таму, відаць, і называюцца вераб'інымі, што ў гэты час гінуць слабыя, безабаронныя пташкі...

*1972*

# АСФАЛЬТ

Таполі па-летняму задуменныя, ціхія, сям-там на асфальце перона шасціць пад нагамі жаўтлявае скручанае лісце. Да восені далёка яшчэ, лісце падае ад гарачыні. Выпетраныя палыны, якія густа падняліся між жужалевых куч, на ўзбочыне пуцей, забіваюць гаркотай астатнія станцыйныя пахі.

Спякотна, млосна, хоць час надвячоркавы. У буфеце мужчыны п'юць піва. Жызнеўскі, як толькі з'явіўся на станцыі, па даўняй трывалай звычцы, таксама памкнуўся туды, але, дайшоўшы да дзвярэй чакальнай залы, рашуча спыніўся. Ён злавіў сябе на адчуванні, што яму зусім не хочацца ў буфет. Гэта нечаканае адчуванне было як адкрыццё самога сябе, як выяўленне нейкіх патайных, глыбока схаваных сіл душы, якія, падсвядома збіраючыся, прыводзяць да зусім свядомых вынікаў.

Жызнеўскі, абагнуўшы рог вакзала, зайшоў у скверык, пад цень тапаляў, прысеў на лаўцы. Ва ўсім, што ён толькі што адчуў, трэба было разабрацца. Але яму не ўдалося пабыць на адзіноце, бо аднекуль выплыў інжынер з «Сельгастэхнікі» Місінскі, похапкам абцёр насоўкай узмакрэлы азызлы твар, плюхнуўся побач, кінуўшы на лаўку туга напакаваны партфель.

— Едзеш куды? — нудна спытаў, як заўсёды гугнявячы.

— Група ад'язджае.

— Тыя, што шашу выбіраюць?

— Тыя самыя.

— Ну і як? Будзе што-небудзь?

— Будзе асфальт. Гладкі, як яйка. Прывязалі да мясцовасці.

Твар у Місінскага круглы, ацесліві, нос загнуты кручком, але ўсё адно ёсць у выразе гэтага твару штосьці такое, што робіць яго падобным да трусінай мордачкі.

— Я не пра праекты пытаю,— цягне Місінскі.— Праектаў хапае. Грошы хто дае і фонды?

— Нафтахімбуд. Пятая частка — з абласнога бюджэту.

— З абласнога? — інжынер загугнявіў больш звычайнага.— Сто гадоў будзеце пракладваць шашу на абласным бюджэце.

Жызнеўскі пачынаў злавацца.

— Заяц хваліцца не любіць! — з выклікам прамовіў ён.— Праз год паедзеш ва ўпраўленне па асфальце. Гэта абсалютна точна.

Місінскі з недаверам зірнуў на субяседніка.

— Скажы ты! Драўляных мастоў адрамантаваць не можаце, а тут — асфальт. Хоць пры чым тут вы? Бензінам запахла, таму даюць шашу.

У адпрасаванай беласнежнай сарочцы, пагойдваючы шырокімі круглымі плячамі, падышоў Зянчук, і Жызнеўскі ўпершыню зусім спакойна на яго зірнуў. Не было да начальніка пагрузачнай канторы ніякіх пачуццяў — ні добрых, ні дрэнных.

— Карасцялёва з Бабінавіч чакаю,— як бы скардзіцца Місінскі.— Дамовіліся сустрэцца на станцыі. І ў іх трактар стаў. Ні к чорту новы харкаўскі трактар. Восем узялі, і ўсе стаяць. У адным масла, у другім — шмасла. Сем нянек, а дзіця без носа...

— Чаму сем? — стоячы перад мужчынамі, падрыгваючы нагой, ляніва перапытвае Зянчук.

— Таму што матор робіць адзін завод, трактар збірае — другі. Няма на каго скардзіцца.

Зянчук раз-пораз кідае непрыкметныя позіркі на Жызнеўскага.

— Трэба каню ў зубы глядзець, як купляеш,— гаворыць ён.— Але ж вы не купцы-перакупшчыкі. Вам абы прадаць...

— Гаворыш глупства. Вот вязу партфель рэкламацый. Хто іх возьме?

Дзіўна, што знайшла Зіна ў Зянчуку, разглядваючы ў сваю чаргу начальніка пагрузачнай канторы, без ніякай узрушанасці думае Жызнеўскі. Нават як мужчына ён не надта. Чым яна магла ў ім захапіцца? Вядома,

дастане, што захоча. Жонка павінна быць задаволена. Але што Зіне да гэтага?

— Пойдзем вып'ем піва, хлопцы,— раптам запрашае Зянчук.— Карасцялёў цябе, Місінскі, знойдзе і ў буфеце. Дый нікуды ён не паедзе. Хіба такі дурны, каб спадзявацца на вашу кантору? Сам адрамантуе трактар.

Мужчыны ідуць у буфет.

Яшчэ ніколі не было, каб Жызнеўскі, напаткаўшы Зянчука, адчуваў сябе так спакойна. На чалавека, які прынёс столькі згрызненняў, пакут, ён глядзіць зусім абыякава. Ні злосці на яго, ні якіх-небудзь іншых пачуццяў.

Калі яны ўтрох падыходзяць да буфетнай стойкі, Зіна чырванее. Заўсёды ў прысутнасці Зянчука яна чырванее. Жызнеўскі нават наперад можа сказаць, як будзе яна трымацца. Ёй нібы прыбавіцца рухавасці, звяртаючыся да каго-небудзь з наведвальнікаў, яна пачне жартаваць, сыпаць вострымі слоўцамі. І ніводнага позірку не кіне на Зянчука.

Нарэшце вызваліўся столік, і мужчыны селі за яго.

— У Бабінавічах трактар толькі месяц працаваў нармальна,— зноў цягне Місінскі.— Потым упаў ціск масла ў рухавіку. Знялі паддон картэра, думалі бог ведае што, а там у масляным насосе клапаны выкруціліся. Вось так збіраюць новую тэхніку. Цяп-ляп...

Жызнеўскі не слухае размовы. У Зіны з Зянчуком пачалося тры гады назад. Перамену ў паводзінах жонкі ён прыкмеціў адразу. Прыходзіла то ўзбуджаная, то разгубленая і прыціхлая, без ніякай прычыны магла ўсчаць лаянку, кінуцца ў слёзы. Дома была пераважна панылай. Затое на людзях, калі яму з ёй выпадала трапіць у кампанію, мянялася на вачах. Рабілася вогненна-ўзбуджанай, імкнулася прамаўляць тосты, звярачаць на сябе ўвагу. Да яго, мужа, таксама пачала ставіцца іначай. Як бы шкадавала яго. Зрэшты, сям'я трымаецца на Зіне. Цягае сумкі з прадуктамі, мые, шые, варыць. Ён толькі прыносіць зарплату...

— Кінь пра трактары,— перабівае Місінскага Зянчук.— Не веру, што ты пра іх толькі і думаеш. Проста ў камандзіроўку не хочаш. Я б сам не паехаў. Гарачыня, спякота, а там цягайся па кабінетах.

— Жніво зрываецца. Па галоўцы не пагладзяць.

